
Залешанская ікона → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Вершы Андрэя Сцяпанюка → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 34 (3145) Год LXI | Беласток, 21 жніўня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Без феерверкаў у Міхалове




**Другі раз пасля вяртання Юркі Астапчука і яго «Прымакоў» у Гарадок, у Міхалове сёлета замест «Прымацкай бяседы» адбыліся «Беларускія фолькавыя сустрэчы». Імпрэза пад такой назвай здаецца ўжо назаўжды ўвайшла ў каляндар вядучых беларускіх культурных падзей. Падобна як на «Прымацкай бяседзе» 6 жніўня 2016 г. на сцэну міхалоўскага амфітэатра над штучным вадасховішчам выйшаў цэлы шэраг беларускіх гуртоў. На «Беларускіх фолькавых сустрэчах», арганізаваных мясцовым Гмінным цэнтрам культуры пры падтрымцы Міністра адміністрацыі і ўнутраных спраў такіх натоўпаў, як на колішняй «Прымацкай бяседзе», не было. Былі і конкурсы, і ўзнагароды, не хапіла феерверкаў.**

— Беларускія фольк-сустрэчы гэта асаблівая прапанова для турыстаў, якія хочуць пазнаёміцца з памежжам, захапляючым багаццем разнастайнасці. Фэст адбываецца ў першую суботу жніўня. Гэта падзея, якая паказвае багацце беларускай культуры. Выступаюць лепшыя калектывы з Польшчы і Беларусі. Яго мэта заключаецца ў тым, каб захаваць і развіваць традыцыі, звязаныя з рэгіянальным фальклорам беларускай меншасці. Удзельнікі маюць магчымасць пакаштаваць стравы традыцыйнай кухні, набыць публікацыі на беларускай мове, а таксама народныя рамесныя вырабы. Арганізаваная Гмінным цэнтрам культуры ў Міхалове мерапрыемства прыцягвае ў міхалоўскі амфітэатр тысячы гледачоў і прыхільнікаў беларускай народнай забавы. Адной з зорак сёлетніх беларускіх фольк-сустрэч з'яўляецца «Славяны» з Кракава, а з беларускага боку, між іншым, Лявон Вольскі разам з ансамблем «Крамбамбуля», — расхвальваў імпрэзу бургамістр Міхалова Уладзімір Кананчук. Арыентуецца: — Лявон Вольскі з'яўляецца адным з самых вядомых беларускіх мастакоў.

Група «Крамбамбуля» была створана ў якасці альтэрнатывы бягучай музычнай сцэны Беларусі і яе мэтай з'яўляецца папулярызацыя беларускай мовы праз станоўчыя эмоцыі.

Лявон Вольскі спявае і іграе ў групах «Крамбамбуля» і «Zet», з'яўляецца аўтарам некалькіх кніг вершаў, а з 2010 года ўдзельнічае ў стварэнні праграмы «Саўка ды Грышка» на Радыё Свабода. У 2016 годзе атрымаў узнагароду «Freemuse» за выдатны ўклад у «свабоду музычнага выразу»...

— Гэтыя ўзоры мне паказала Галя Зубрыцкая, — паказвае вышываныя ў беларускія ўзоры і кветкі закладкі для кніжак Ганна Кузьма з Міхалова, родам з Сушчы. Яна і другая майстрыха, Галя Бірыцкая з Плянты ў Нараўчанскай гміне як адны з першых расставілі свае палаткі з вырабамі яшчэ з гадзіну да мерапрыемства. Іх мастацкія палаткі з творамі рукадзелля вядомыя на ўсіх беларускіх імпрэзах на Беласточчыне, а і ў Польшчы. Жыхарка з Плянты раздабыла крамку і возіць яе на аўто, якім сама кіруе, а Ганне Кузьме фірменную палатку даў Гмінны цэнтр культуры ў Міхалове.

— Яна мая, пакуль буду выстаўляць свае вырабы, пасля яе, вядома, вярну ў ГЦК. Пакуль маю сілу — ладую ўсе свае прычындалы і творы з падмогай іншых і стаўлю сваю «краму», дзе прыйдзецца расслаўляць імя сваёй гміны, — удакладняе цётка Ганна і паказвае свае вядомыя і новыя ўзоры вышыўкі і гафту.

І кліча сваю хросную дачку, Анэту Назарка, якой варта пахваліцца — яна ж спявае ў новым міхалоўскім гурце «Слявянская нота», які заснаваў па заказе міхалоўскага ГЦК вядомы музыка Марыюш Харужы. Яны выступаць сёння другі раз на такім вялікім, міжнародным мерапрыемстве і слухачы будуць пляскаць у ладкі, каб падтрымаць і заахвоціць групу. «Ляпаць» не будзе ніхто, бо з «Прымакамі», што з'ехалі ў Гарадок і забралі яшчэ і шмат здольных маладых спевакоў з Міхалоўскай гміны, «ляпанне» адышло на іншыя мерапрыемствы. Адно «ручкі дагары», сімвал, здавалася б, не захаплення, а здачы, засталося і выкрыквалася дзеля заахвочання публікі лідарамі некаторых выступаючых груп. Але біць апладысменты сёння энтузіястычна не ўдавалася — другая рука гледача звычайна трымала парасон. Бо лівень пачаўся амаль адразу пасля сямнаццатай гадзіны. Ліло, здаецца, так шчодра бадай ці не толькі над Міхалоўскай гмінай. Ну як нейкае... пакаранне, ці што? «Пакропак» быў жа, бо ж бачым сярод гасцей і добрага бацюшку міхалоўскага прыхода Яна Ярашука. А цётка Ганна, якая ведае ўсё аб ваколіцы цяпер і ў мінулым, яшчэ папракне адну дзеўку, што жыве не «па-божаму» з нарачоным без вянца, а так цяпер прынята ў распусным грамадстве.

— Калісь штотыдзень у царкве былі «запаведзі» пра шлюбы. У 1964 годзе, калі я брала шлюб, у тую нядзелю было восем запаведзяў пра вянец. Трэба жаніцца, дзяцей нараджаць. І добра было б, каб вялі імпрэзу нашы, міхалоўскія. У нас многа такіх, што ведаюць мову і маглі б павесці гэта прыгожа, па-свойму. «Слявянская нота» спявае «фольк» тутэйшы і нетутэйшы, але наш. Ёсць каму працягваць свойскае пяянне, але трэба старацца, каб расло новае пакаленне! А гэты фэст — харошы такі!

І з Ваўкавыска прадстаўнік улады так па-беларуску трапна сказаў.

— Не ведаю, ці мы пасуем да гэтага фольк-фестывалю, — прызнаўся Лявон Вольскі. — Нас зарасіў Павел Азябла. Мае некалькі песень — беларускіх, нямецкіх, літоўскіх, славацкіх, пасуючых да такога фэсту. Але была ў нас такая праблема — прастаялі мы пяць гадзін на мяжы, і цяпер з усім не паспяваем. Начуем тут, у свойскім «Заездзе Міхалова». Выдатна, што тут адnаўляецца беларуская мова ў школе. І такія беларускія святы ў Міхалове — пункт для беларушчыны.

— Канцэрт вялікі, але іншы чым да гэтай пары, у якіх я была вядучай, — прызналася Паўліна Паўлючук-Коська, якая вяла фэст па-беларуску разам з Марыюшам Харужым (па-польску). — Праграма распісаная да трэцяй ночы, пабачым, як публіка будзе гуляць. І ўлады прадстаўлены так багата. З Ваўкавыска быў намеснік мэра Ігар Кашкевіч і цэлая дэлегацыя.

— Паважаныя нашы браты і сёстры з Міхалова! — прамовіў Ігар Кашкевіч. — Вы ўсе ведаеце, што паміж Ваўкавыскім раёнам і Міхаловам існуе і падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве. І мы з задавальненнем прынялі запрашэнне прыняць удзел у такім знакамітым фэсце. З задавальненнем слухаем нашы песні і падпяваем ім, і прыемна глядзець на вашы шчаслівыя твары прыгожых дзяўчат і жанчын, мужных мужчын і хлопцаў. Я думаю, што пакуль мы будзем разам, у нас усё будзе добра! — і прачытаў адмысловы прывітальны адрас старшыні райвыканкама, перакананага ў тым, што «гэтае мерапрыемства яднае жыхароў суседніх дзяржаў — Польшчы і Беларусі, шырока прапагандуе найлепшыя ўзоры беларускай народнай творчасці, служыць умацаванню міжрэгіянальных культурных сувязей. Праведзенне падобных фестываляў становіцца сімвалам сяброўства нашых народаў, спрыяе турыстычнай прывабнасці абодвух рэгіёнаў. Вашу ўрачыстасць бачым як даніну павагі да нашай краіны, яе жыхароў і культурнай спадчыны. Мы ўпэўнены, што такія сустрэчы стануць нашай агульнай традыцыяй і пляцоўкай для ўладкавання добрасуседскіх і дружалюбных сувязей, прыкладам для пераймання і гарантам мірных адносін паміж дзяржавамі. Жадаем фестывалю захаваць атмасферу душэўнай цеплыні, шчырасці і сяброўскіх адносін... Хай Бог памагае Міхалову і Польшчы!»

— Добрэ кажэ! — прыпляснуў у ладкі жыхар Гарадоцкай гміны Мікалай, які ў Міхалова прыехаў на роварах. — Адно няхай канчае, спеваў чакаем!

Усе частаваліся прысмакамі ад Гурта актыўных жыхароў Міхалоўскай гміны, слухалі і глядзелі выступы найлепшых беларускіх гуртоў з Беласточчыны — з Чыжоў («Чыжавяне»), Гайнаўкі («Рэха пушчы», «Перапёлка»), Гарадка («Расспяваны Гарадок», «Асенні ліст», «Вэна», «Хутар», «Калінка»), Беластока («Гай», «Світанак»), Сямятыч («Оморфос»), Бельска-Падляшскага («Маланка», «Фарт»), Міхалова («Сакрэт», вакальная дзіцячая група), з Кракава («Słowiany», вядомыя з праграмы «Must Be The Music»). З Беларусі, апрача «Крамбамбулі», выступілі «Багач», «Забава», «Пружаначка», «Купалінка». Хапала часу на выкананне па 3-5 твораў кожнага калектыву. У канцэртным блоку і на забаве глыбокай ноччу далі канцэрты «Арс-Лонга» (Беларусь), Студыя песні «Фарт» з Бельска, «Крамбамбуля» (70 хвілін), «Славяны, «Сакрэт» і «Гай». Феерверкаў не было, а калі б былі, дык згаслі б на даджжы. І «ляпання ручкамі ўгары» не было чутно, толькі кволамокрыя, але ж шчырыя апладысменты.



**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

9 770546 196000



# Лагічнасць свету

Усё ж такі логіка перамагла. Свет лагічны і ўсё ў ім лагічна. Ну, можа не адразу тая логіка праяўляецца з-за таго, што некаторыя моцныя гэтага свету лічаць, што яны ў змозе змяніць сусветныя законы так, як ім хочацца. Але рана ці позна ўсё ўтрасаецца належным чынам.

Сапраўды, падобнае цягнецца да падобнага. Дэмакратыі цягнуцца да дэмакратый, а дыктатуры да дыктатур. Таталітарны кіраўнік заўсёды знойдзе агульнае з такім жа як і ён. Спробы дэмакратый загульваць з таталітарнымі краінамі, выхоўваць іх і спрыяць дэмакратычнай адукацыі таталітарных лідараў з трэскам правальліся ў глабальным маштабе і працягваюць правальвацца ў меншых маштабах там, дзе да палітыкаў з нізкім IQ яшчэ не дайшло, што так будзе.

Нехта гэта ўспрымае як катастрофу, нехта як асабістую паразу, а нехта як натуральны працэс, які ўсё расставіў на свае месцы.

Зусім нядаўна мы былі сведкамі жорсткага супрацьстаяння Расіі і Турцыі, дакладней — Пуціна ды Эрдагана. Чаго там толькі не было: і эканамічныя санкцыі, і забарона прыезду турыстаў, і нават пагрозы з боку расійскага кіраўніка, што калі туркі лічаць, што ім усё сыдзе з рук толькі забароненымі памідорамі, то яны моцна памыляюцца.

Туркі таксама не адмоўчваліся, хоць патрабавалі ад іх усяго толькі прабачэнняў за збіты самалёт. Не так і шмат, але ў адказ былі свае пагрозы. Многія тады лічылі, што гэта надоўга. Але ж крумкач крумкачу вока не выдзеўбе. І вось ужо свет мяняецца ў лагічны бок. Два таталітарныя лідары доўга не вытрымалі адзін без другога.

Хоць прабачэнняў за самалёт і не было, а толькі шкадаванні, але і гэтага хапіла. І вось ужо пасля няўдалага, або ўдалага перавароту ў Турцыі Крэмль запусціў сваю праверанаю дыпламатычную кавалерыю. Найперш Эрдагана запрасіў да сябе кіраўнік Беларусі. Але турэцкі лідар хіба што вырашыў першыя перамовы з рускімі, хай сабе і праз пасрэднікаў, правесці на сваёй тэрыторыі. І вось ужо ў Анкару імгненна вылецеў другі саюзнік Пуціна па СНД кіраўнік Казахстана.

І вось ужо і сам турэцкі кіраўнік ляціць у Расію.

Што там тыя памідоры ці тым больш той лётчык. Перашкод больш няма. Эрдаган дاказаў, што ён свой, і з ім цяпер можна мець справы. Ён жа выказаў свае негатыўныя адносіны да ЗША і да Еўропы таксама. Цяпер усе пытанні вырашаюцца імгненна. Аднаўляецца «Турэцкі паток», ідзе размова пра пабудову ў Турцыі расійскай АЭС, пра пабудову стратэгічнага газасховішча, робіцца заява пра новыя стасункі ў адносінах Расіі і Турцыі.

А ў новай палітычнай рэальнасці вымалёўваецца новая, і абсалютна лагічная кааліцыя Расія-Турцыя-Іран.

І можаце не сумнявацца, што да канца года нафта будзе каштаваць каля 100 долараў.

Зараз ужо Турцыя не будзе збіваць расійскіх самалётаў. А Расія, у адрозненні ад Еўропы, і не збіраецца патрабаваць ад Турцыі не ўводзіць смяротнай кары. Яна нават ад Беларусі такога не патрабуе.

Не магу зразумець толькі аднаго: чаму так шмат людзей, якія па абавязку сваёй прафесіі мусілі ўсё гэта прадбачыць, меркавалі, што можа быць па-іншаму? Ну адкажыце, ці было калі па-іншаму? Ці змаглі ў еўрапейскіх гуманітарных інстытутах выхаваць Пол Пота ці Кім Чэн Ына? Увогуле, каго змаглі выхаваць? Каму змаглі, шляхам загульвання і ліслівасці, саступак і прамых фінансавых падтрымак праз Сусветны валютны банк укласці ў галаву дэмакратычныя каштоўнасці.

І ўсе гэтыя гульні адбываюцца заўсёды пры адкрытай здрадзе тых колаў грамадства, якія акурат і маюць гэтыя дэмакратычныя каштоўнасці.

Ну што ж. Хай спрабуюць яшчэ і яшчэ. Гісторыя вучыць толькі таму, што нічому не вучыць.

А пра ўваход Турцыі ў Еўрасаюз ужо хіба што размовы прыціхнуць. На нейкі час, пакуль на чарговых выбарах у Еўропе не прыйдзе новае пакаленне палітыкаў, якія, як і іх папярэднікі, забыўшыся пра логіку, зноў палічаць сябе разумнейшымі за тых папярэднікаў і абвесцяць праграму «перазагрузкі» і для Турцыі, і для Расіі — нават пры гэтых кіраўніках.

Беларусі ж такую праграму будуць з кожнымі новымі выбарамі абвяшчаць новыя польскія палітыкі.

А перамагаць заўсёды будзе логіка.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Польскі лёс?

Заканадаўчая гіперактыўнасць польскіх парламентарыяў дасягнула дна. Ці, як хто хоча — піку. Толькі што для каго значыць пік і дно? І глупства ці мудрасці?!. Якога б тут не прымяніць прыметніка, гэта факт, што заўзятасць польскага Заканадаўцы стала ў Еўропе агульнавядомай. Еўропа з нас смяецца.

На жаль, ні адзін іншы Заканадаўчы орган у свеце не прымае столькі новых законаў, які польскі. Ці неабходныя яны? А ці каўтун на галаве неабходны, ці не? Прыкладаў прававога каўтунства можна прывесці шмат. У рэшце рэшт, не пра іх індывідуальны сэнс гаворка, а пра іх бессэнсоўны лішак. Лішак закону нараджае беззаконне — ведае аб гэтым кожны. Не кранае гэта, тым не менш, дэпутатаў Сейма і Сената — пры хуткім адабрэнні прэзідэнта краіны, які з хуткасцю чаргі з аўтамата Калашнікава асвячае сваім подпісам іх чарговыя больш надуманыя, чым патрэбныя законы. Гэта злачынства на польскім заканадаўстве.

Незлічонасць прававых актаў, перакрываючых усё новыя і новыя запісы, прыводзіць да глыбокай супярэчнасці ў логіцы закона. Па сваёй сутнасці ён павінен быць празрыстым і прагматычным у адпаведнасці са звычаёвымі стандартамі сацыяльнай справядлівасці. У адваротным выпадку дае ў выніку расстрой грамадства і дзяржавы. На практыцы гэта можа выявіцца так, што ў адпаведных грамадзянскіх, крымінальных ці адміністрацыйных справах будуць прыняты супярэчлівыя адзін аднаму канчатковыя рашэнні. Дарэчы, фармальна згодныя з дзеючымі законамі і нарматыўнай этыкай прафесійных суддзяў. Як гэта адаб'ецца на пачуцці грамадзянскай справядлівасці і, у выніку, на грамадскім парадку, лёгка прадказаць. Наступіць інстытуцыянальны хаос, запануе агульны ўпадак і пагарда да закона. Павысіцца нянавісць да дзяржавы, якая воляй-няволяй будзе прымушана ўстаноўленую законную бытаніну абараняць як выканаўчая ўлада. Такая сітуацыя адкрые шлях для поўнага аўтарытарызму, пры якім сённяшнія аўтарытарныя патугі ПіС акажуцца быць толькі дзіцячым практыкаваннем. Больш за тое, стане як бы па жаданні большасці грамадзян, стомленых дзяржаўнай бязладзіцай і інерцыяй. Толькі для чаго будуць яшчэ патрэбныя дэпутаты, сенатары?

Такім чынам, законная перавытворчасць, якая мае характар глыбокай паталогіі, гэта смяротны прысуд для Польшчы, той дэмакратычнай. Гэта шыбенічная пятля. Гэта толькі метафара, але хапае ёй драматычнай літаральнасці. Калі не заўтра, дык у найбліжэйшай будучыні будзем выпрабоўваць злавесную механіку яе зашморгвання. Самае парадаксальнае складаецца ў тым, што смяротны прысуд на заканадаўчым кіраванні, нягледзячы на абсалютную адмену ў Польшчы гэтага суровага пакарання, ажыццяўляецца ў поўным выкананні закона, прытым закона ўстаноўленага польскім Заканадаўцам. Аднак гэта не выключная віна парламента і прэзідэнта цяперашняга тэрміну. Не менш хваравітую заканадаўчую творчасць культывавалі іх папярэднікі. І так пятля ашалелай «правалогіі» няўмольна зацягваецца на нашых грамадзянскіх шыях. Мы гэта бачым, чуем пра гэта, і нічога не можам зрабіць.

Наша роля ў фарміраванні будучыні — як заўсёды, лепшай — Польшчы канчаецца на галасаванні. Мы выбралі, каго трэба ці не трэба, а цяпер — заткніцеся! Мы не маем ніякага кантролю над нашымі абраннікамі. Таму што не існуе ў польскім і, верагодна, у любым выбарчым законе запіс аб votum separatum для дэпутата, які не выконвае перадвыбарчых абяцанняў. Іншая справа, што большасць з іх абяцае выбаршчыкам чарговыя змяненні ў законе, што сустракаецца з іх адабрэннем. Вось і маем такі наш... польскі лёс.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Каргуль і Паўляк — «На мэжы»

Хто з нашых чытачоў «Нівы» не глядзеў, прынамсі раз у жыцці, абсалютнага, польскага кінахіта з 1967 года «Sami swoi» з незабыўнымі сем'ямі Паўлякаў і Каргуляў? Геніяльныя ролі, зайграныя вядомымі акцёрамі Вацлавам Кавальскім (у ролі Казіміра Паўляка) і Уладзіславам Ганьчам (як Уладзіслаў Каргуль) па сённяшні дзень выклікаюць захапленне новых пакаленняў гледачоў. Кінарэжысёр Сільвестр Хенцінскі ў наступных гадах зняў яшчэ дзве часткі трылогіі пра сямейныя прыгоды Каргуляў і Паўлякаў — у 1974 г. «Nie ma mocnych» і ў 1977 г. «Kochaj albo rzuć». Кінатрылогія — знакамітая камедыя пра лёс дзвюх пасвараных па прычыне мяжы сем'яў, жывучых дзесьці ў бліжэй неакрэсленай прасторы, мабыць, на Віленшчыне, Вальні ці Гарадзеншчыне, а пасля Другой сусветнай вайны апынуўшыхся ў выніку рэпатрыяцыі на Ніжняй Сілезіі ў ваколіцах Вроцлава, на гэтак званых паслянямецкіх «Вернутых землях».

«Wysiadamy, bo tu nasze ludzie są», — славутая фраза, сказаная пасля пабачэння суседскай кароўкі, дае пачатак незабыўным маналогам, так характэрным менталітэту сялян-аднавяскоўцаў. «Нашы людзі» — класнае акрэсленне, якое існуе і па сённяшні дзень у падляшска-беларускай прасторы. Таму загаловак кінакарціны «Самі свае» ідэальна ўпісваецца ў дуалістычны менталітэт насельніцтва ўсходняй Беласточчыны. Проста пасвараныя «нашы хлопцы» ўзяліся за чубы пры дапамозе судоў, зброі (касінерскія традыцыі разні ўключна з эміграцыяй, замененыя потым на гранаты), каб атрымаць кожнаму сваю справядлівасць. А ўсё проста за скібу зямлі шырынёй на тры пальцы. Аднак адны без другіх абысціся не могуць. Ненавідзяць з любоўю, ад сэрца і душы, кожнага дня і ночы. Мары пра помсту — гэта суцяшэнне ў нялёгкай рэчаіснасці.

Глядзеўшы чарговы раз «Саміх сваіх» за кожным разам у фільмавых персанажах знаходжу быццам часткі розных расказаў маёй сям'і. Бачу суседзяў-аднавяскоўцаў, якія падобным чынам складалі ўзаемасувязі. Нават маладзёнам, пасвіўшы «калейкай» кароў з усёй вёскі, дайшоў я да векапомнага для сябе адкрыцця, што характар жывёлы абсалютна адпавядае характару яе гаспадароў. Адны — ціхамірныя, спакойныя, другія — злосныя, заўсёды гатовыя ўлезці ў шкоду. І ніяк я не мог зразумець, чаму перш за ўсё паміж сабою бароліся каровы варагуючых гаспадароў.

У міжваенны і пасляваенны беларускай традыцыі Падляшша вельмі ахвотна варагавалі між сабою аж да крывавых разборак з дапамогаю салідных дубінак, жалезных палак ці нажоў, бліжэйшыя ці далейшыя суседнія вёскі. Найчасцей пры нагодзе царкоўных фэстаў, вечаровай парою пры патанцоўцы раптам пачыналі лямантаваць дзяўчаты. Абазначала гэта, што традыцыя пачынала збіраць сваё крывавае жніво. Пераломы, выбітыя зубы, вочы, а часта нават смяротныя ахвяры — гэта таксама наша бацькоўская і дзедаўская спадчына. У крымінале, як тады гаварылася, адседзеў не адзін «жэжкі кавалір». Слава пра такіх герояў разыходзілася вельмі хутка па наваколлі і ў зімовыя доўгія вечары была інспірацыяй для лепшых расказчыкаў у вёсцы.

Таму, калі я даведаўся, што паміж вёскамі Чыжоўскай і Арлянскай гмін адбудзецца першы народны фэст пад назвай «На мэжы» — то такое прымірэнне-здарэнне ўспрыняў я ў метафізічных катэгорыях як адну з выразных прыкмет канца нашай, тутэйша-індзейскай цывілізацыі. Бо ж не таямніцай тутэйшага свету была адвечная суседская лупцоўка. І такое прымірэнне перад дэмаграфічным сконам явілася мне сімвалічным, проста фільмавым кадрам з любой часткі каргулеўска-паўляткоўскай трылогіі. Але жыццё пераўзышло даўняе кіно. Выступленне войта Чыжоўскай гміны Юры Васілюка на польскай мове (змест надрукаваны ў папярэднім нумары «Нівы») можа стаць інспірацыяй для маладых сцэнарыстаў і рэжысёраў зняць, напрыклад, кінафільм пра сённяшніх «самых сваіх» — самаўрадаўцаў. Нават у нашай беларускай прасторы за апошніх 25 гадоў самакіравання наглядаецца столькі выразных кандыдатаў на фільмавых герояў, што хопіць іх на некалькі сцэнарыяў. Адказ войта Арлянскай гміны Пятра Сэльвесюка на выступленне (і тлумачэнне слоў свайго чыжоўскага калегі) лічу проста бліскучым і геніяльным. Бо каб зразумець сябе «на мэжы», то трэба гаварыць па-свойму — хутчэй будзе. Ну і таксама пісаць. Абяцаных гадамі пасля кожных выбараў войтам Васілюком двухмоўных указальнікаў з назвамі вёсак у Чыжоўскай гміне як не было, так і няма. Відаць, пабачым мы іх як сваё вуха без люстэрка. ***А за мэжою ў суседа е!!! І вэльмі добрэ!!!***

**Яўген ВАПА**

# Першыя святкаванні ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці

**У апошнюю нядзелю ліпеня ў Залешанах Кляшчэлеўскай гміны сабраліся многія святары і сотні вернікаў, каб першы раз святкаваць у гонар Залешанскай іконы Божай Маці. Малітвы падчас літургіі ўзначаліў мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава.**



■ Сабраныя хросным ходам пайшлі з іконай Божай Маці да крыжоў, пастаўленых на памяць загінуўшым у 1946 годзе жыхарам Залешан, дзе маліліся за ўпакаенне іх душ.

— Чалавек, які хварэў і прыехаў да нас памаліцца і прасіць выздараўлення, падчас літургіі ўбачыў Божую Маці на іконе ў акружэнні сямі анёлаў. Пасля, падчас сну, некалькі разоў пачуў ён мілы жаночы голас, які гаварыў, каб напісаць ікону Божай Маці, якую гэты чалавек убачыў падчас малітваў у нашай царкве і пачуў ён словы трапара Багародзіцы. Гэты мужчына выздаравеў і была здзейснена пачутая ім просьба, — сказала ігумення Елізавета (Нічыпарук), якая з 2007 года кіруе дзейнасцю Жаночага манаскага дома святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах.

Манаскі дом паўстаў на месцы, дзе раней жыла і гаспадарыла сям'я. Здарэнне ў залешанскай царкве з мужчынам адбылося ў ліпені 2013 года і таму ў гэтым месяцы будуць адбывацца святкаванні ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці. Вялікая ікона Божай Маці, акружанай сямю анёламі, знаходзіцца ў драўлянай царкве манаскага дома. Знізу на іконе напісаны словы трапара, пачутага мужчынам падчас сну. Злева ад трапара бачны на іконе дом, заняты пажарам, а справа — трое малых дзетак у агні. Іх таксама ўбачыў у царкве згаданы чалавек. Паводле манахіні Елізаветы, напісаныя на іконе дом і дзеткі ў агні спасылаюцца на трагічныя падзеі 29 студзеня 1946 года ў Залешанах. Ігумення Елізавета мнагакратна ўспамінала, як жаўнеры атрада Нацыянальнага вайсковага задзіночання пад камандаваннем Рамуальда Райса «Бурага» спалілі Залешаны. Тады загінула 16 асоб, у тым ліку 5 дзетак. «Пэўна дзякуючы хадайніцтву ў Бога гэтых мучанікаў, — гаварыла матушка, — у Залешанах паўстаў і дзейнічае манаскі дом».

Паломнікі, якія ў апошнюю нядзелю кожнага месяца прыязджаюць у Жаночы манаскі дом у Залешанах памаліцца, бачаць на Залешанскай іконе Божай Маці дом і дзетак у агні — сімвал трагічных падзей 1946 года. На іконе змешчаны словы трапара, якія ў сне пачуў паломнік: «Радуйся, Благодатная Богородице Дево, весь Залешаны от уничтожения вражья сохранила еси, и нас ныне просящих Твоея помощи и заступления от дьявольских козней защити, молящи Сына Твоего и Бога нашего, помиловати душы наша».

Святкаванні ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці пачаліся 30 ліпеня з усяночнай багаслужбы. 31 ліпеня мясцовыя вернікі і паломнікі з больш аддаленых мясцовасцей сталі збірацца раніцай. Некаторыя дабіраліся сарганізаванымі групамі, напрыклад паломніцтва з Беластока. З раніцы чытаўся акафіст да Божай Маці, асвячалася вада і вернікі станавіліся ў доўгую чаргу, каб пакланіцца Залешанскай іконе Божай Маці. Малітвы падчас літургіі ў саслужэнні многіх святароў і манахаў узначаліў мітрапаліт Сава. Пазней сабраныя хросным ходам пайшлі з Залешанскай іконай Божай Маці да крыжоў, пастаўленых на памяць трагічна загінуўшым жыхарам Залешанаў у 1946 годзе, дзе маліліся за ўпакаенне іх душ. Вярнуўшыся ў манаскі дом, мітрапаліт Сава ў саслужэнні святароў асвяціў новаўзведзены мураваны будынак, у якім знаходзіцца сталовая для паломнікаў, жылыя пакоі



■ Ікона Божай Маці была напісана паводле расказу мужчыны, якому яна з'явілася ў царкве ў Залешанах

і келлі. Мітрапаліт Сава прыгадаў падзеі, якія папярэдзілі напісанне Залешанскай іконы Божай Маці, успомніў загінуўшых у Залешанах у 1946 годзе. Гаварыў, што Залешаны — месца акропленае крывёй мучанікаў, таму абавязкам кожнага з нас з'яўляецца захаванне памяці аб іх. Мітрапаліт запрапанаваў узвядзенне ў манаскім доме пастаяннай царквы.

— Варта вучыцца гісторыі ў тых, якія тут засталіся, чыя кроў увабралася ў гэтую зямлю. Яны загінулі як героі і з'яўляюцца нашымі пакутнікамі. А тых, хто гэта зрабіў, я думаю, напаткаў горшы лёс і аднак больш трагічныя гэтыя людзі... У гэты час страшна, потым настае час плачу, затым час глыбокага душэўнага болю, а ў канцы прыходзіць час, калі ўсё гэта як бы ў радасць перамяняецца. Можа гэтай радасці сёння першы дзень быў тут, у Залешанах, Бог адзін ведае, — сказаў мітрапаліт Сава і звярнуў увагу на словы ліста апостала Паўла да рымлян з напамінам любіць іншых, быць ім зычлівымі, адракацца ад злога, быць цярплівымі і трывалымі ў малітве. Словы апостала павінны стаць дарогай для праваслаўных людзей.

Мітрапаліт Сава падзякаваў усім задзейнічаным у пабудову мураванага будынка, які быў асвечаны, і іншым асобам, якія дапамагалі пры стварэнні і дзейнасці манаскага дома. Мітрапаліт падзякаваў таксама былому настаяцелю Мужчынскага манастыра св. велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках архімандрыту Варсанофію за перадачу жылога дома з панадворкам у Залешанах на патрэбы манаскага дома. Жаночы манаскі дом у Залешанах стаў цяпер, побач распалажаных паблізу царквы св. Дзмітрыя і мужчынскага манастыра ў Саках, месцам паломніцтваў для вернікаў з Падляшша і з-па-за нашага ваяводства.

Спачатку жылы дом у Залешанах, у якім раней жыла сям'я, быў адрамантаваны і прыстасаваны на манаскі дом, з унутранай царквой і келлямі на другім паверсе. Збоку была ўзведзена часовая драўляная царква. 31 ліпеня быў асвечаны мураваны дом, які будаваўся тры гады. Мітрапаліт Сава асабліва падзякаваў бургамістру Кляшчэляў Аляксандру Сяліцкаму за дапамогу, аказаную манаскаму дому.

— Семдзесят гадоў назад загінулі тут нявінныя людзі. Мы ніколі не павінны забываць аб іх і павінны рабіць усё, каб да такіх трагедый не дайшло ў будучыні. Жыхары Залешан ніколі не атрымалі кампенсацыі за загінуўшых і за спаленую маёмасць. На Кляшчэлеўскай зямлі, на Залешанскай зямлі, жывуць перш за ўсё праваслаўныя людзі, вялікая частка якіх гэта людзі беларускай нацыянальнасці. Да нас, як да нацыянальнай меншасці, павінны ставіцца з пашанай, каб мы мелі свае правы, — сказаў бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі ў студзені гэтага года ў Залешанах падчас ушанавання 70-й гадавіны трагічных здарэнняў 1946 года.

Ігумення Елізавета падзякавала шматлікім спонсарам за фінансавую дапамогу, іншым асобам — за фізічную і арганізацыйную працу ў ходзе пабудовы будынка, у якім могуць затрымлівацца святары і паломнікі, а ў якім у будучыні будуць жыць матушкі манаскага дома.

Падчас святкаванняў разам з архімандрытам Цімафеем маліліся таксама манахі з мужчынскага манастыра ў Саках, якія ў Жаночым манаскім доме ў Залешанах узначальваюць малітвы падчас літургіі, акафістаў і малебнаў у апошнюю нядзелю кожнага месяца. Пасля літургіі сабраныя моляцца перад Залешанскай іконай Божай Маці і да святой велікамучаніцы Кацярыны, нябеснай заступніцы манаскага дома. Паломнікі, якія 31 ліпеня прыбылі ў манаскі дом упершыню, распытвалі пра трагічныя здарэнні 70-гадовай даўнасці і атрымлівалі адказы ад мясцовых людзей.

— Гэтую драўляную царкву будавалі з памочнікамі сваімі сіламі, каб было месца для малітваў для большай колькасці паломнікаў, паколькі такога месца мала было ўжо ў царкве ў адрамантаваным манаскім доме. Колькасць паломнікаў, якія прыязджаюць сюды на малітвы, расце, а як будзе ў будучыні, час пакажа. Мы загінуўшых у Залешанах лічым мучанікамі, але каб яны афіцыйна сталі мучанікамі Царквы і былі ўключаны ў лік Холмска-Падляшскіх мучанікаў, патрэбны кананізацыйны працэс, а на ўсё ёсць свой час, — сказаў Сяргей Нічыпарук, бацька ігуменні Елізаветы, якіх сямейнікі загінулі ў Залешанах.

Матушка Елізавета, з якой цяпер пастаянна жыве паслушніца, стала арганізаваць манаскае жыццё ў роднай вёсцы, якую спасцігла вялікая трагедыя ў 1946 годзе.

— Падрыхтавацца да сённяшніх святкаванняў памагалі многія. Мы, больш за дзесяць асоб, прыехалі сюды з розных мясцовасцей і працавалі тут апошнім часам пастаянна, — сказала дзяўчына з Гайнаўкі, якая налівала асвячоную раней ваду ў бутэлькі, раздавала яе вернікам і выконвала іншыя абавязкі.

Пасля малітваў усіх паломнікаў частавалі смачным супам і кампотам з салодкай булкай. Сам працэс раздачы харчавання адбываўся хутка, дзякуючы дапамозе вялікай колькасці асоб. Удзельнікі святкавання маглі купіць у манаскай лаўцы іконы, у тым ліку Залешанскай Божай Маці. Паломнікі станавіліся яшчэ ў чаргу, каб на развітанне пакланіцца Залешанскай іконе Божай Маці. З наступнага года святкаванні ў гонар Залешанскай іконы будуць адбывацца ў апошнюю суботу ліпеня, якая будзе лічыцца днём з'яўлення іконы.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# НІБЫ РАЗАМ, А ЗАЎСЁДЫ АСОБНА



На працягу ўсёй 400-гадовай яўрэйскай прысутнасці ў Орлі яўрэі больш за два стагоддзі дамінавалі ў мястэчку ў колькасным, эканамічным і культурным плане; многа элементаў яўрэйскай культуры пранікла ў хрысціянскую. Яўрэі вельмі берaглі сваю адасобленасць, нават штодзённа былі быццам разам, аднак заўсёды асобна. Гэтая тэма астаецца незавершанай гісторыяй. Вяртаюся да некаторых успамінаў арлян, падмацаваных успамінамі колішняга жыхара Орлі ды Прыкарпацця.

**Сафія Нядзельская** (26.11.1916-2.02.2001): Арлянскія яўрэі былі вельмі інтэлігентнымі і культурнымі людзьмі. Ніколі я не бачыла п'янага яўрэя. Займаліся яны пераважна гандлем.

Яўрэйская моладзь апраналася вельмі модна, бо ў іх былі сваякі ў Амерыцы, якія прысылалі шыкоўную вопратку. Мы пасля абеду спецыяльна хадзілі на рынак паглядзець у што апранаюцца яўрэйскія модніцы; былі гэта прыгожыя жанчыны.

Яўрэі жаніліся між сабою, пасля доўгага знаёмства, часта нават пасля васьмі гадоў. Сям'я маладой рыхтавала багаты пасаг. Бедным яўрэйкам складана было выйсці замуж. Здараліся старыя дзевы, якіх называлі матронамі. Калі жаніліся бедныя, іншыя яўрэі ўспамагалі іх — збіралі ім у бажніцы падчас шлюбу грошы ды ў яўрэйскай школе.

На свята Страшнага дня ўсе яўрэі ішлі маліцца ў бажніцу. Там гарэлі тоўстыя паўметровыя свечы. Нашы маладыя жулікі часта ўпускалі ў бажніцу варону або голуба. Спалоханая птушка лётала па храме і тушыла свечкі, а яўрэі галасна лямантавалі.

**Яраслаў Адзіевіч** (1927 года нараджэння): Цікава тое, што яўрэі былі найлепшымі вучнямі. А дзяўчыны былі вельмі прыгожыя. Яўрэйка Муся, якая вучылася з маёй сястрой, была найпрыгажэйшай дзяўчынай у цэлай Орлі.

**Яўгенія Пасечнік** (1932 г.): Яўрэі добра вучыліся і давалі спісваць, а яўрэйкі прыходзілі нават дахаты дапамагаць у навуцы, абы толькі не шчыпалі іх у школе. Парты ў школе былі чатырохмесныя і ў іх саджалі наперамен яўрэяў і праваслаўных. Бывала і так, што яўрэйка мусіла прынесці ў школу смачную булку, каб не дастаць...

**Наташа Камарчук** (5.08.1905-29.11.1997): Яўрэйскім мужчынам нельга было хадзіць з яўрэйкамі — яны строга гэтага трымаліся. Здаралася аднак, што некаторыя яўрэі збіраліся ў нашай хаце — елі тады нашу свіную каўбасу, шынку, пілі гарэлку і быў „эрлах" — гулянка. Нікому пра гэта я не гаварыла, таму яўрэі мяне вельмі за гэта паважалі.

На забавы і патанцоўкі, якія ладзіла наша моладзь, прыходзілі таксама яўрэі, гулялі ў Мошка Вадзілоўскага па вуліцы Бельскай.

**Аляксандр Карнееў** (29.12.1910-26.12.2002): У арлянскай пажарнай камандзе і ў духавым аркестры яўрэі і хрысціяне згодна супрацоўнічалі. Гралі мы на яўрэйскіх вяселлях, а калі наш яўрэйскі калега жаніўся, цэлы аркестр іграў яму бясплатна.

**Веслаў Врублеўскі** (1928 г.) з Едліч, што каля Кросна ў Падкарпацці, быў сынам загадчыка арлянскай паўшэхнай школы ў 1920-1930-х гадах. 16 лютага 2009 года наведаў Орлю і школу, а годам таму завязаў са мною кантакт. Спадар Веслаў заглядаў на інтэрнэтныя старонкі датычныя нашага мясцовага мінулага: Пасля вайны, пасля халакосту, жыхары Орлі даволі цёпла ўспаміналі сваіх яўрэйскіх суседзяў, што акуратна відаць у Вашых размовах, праведзеных з жыхарамі Орлі, якія пра яўрэяў гавораць заўсёды добра. Не хачу пярэчыць іхнім выказванням, бо кожны мае права на такія ці іншыя ўспаміны. Пасля знаёмства з Вашымі размовамі прызадумаўся і я пра свае ўспаміны пра арлянскіх яўрэяў; яны ў мяне розныя.

У ліку маіх яўрэйскіх равеснікаў я не меў прыяцеляў. Мае бацькі не былі антысемітамі. Я таксама не адчуваў нянавісці да гэтага народа. Мы, як вучні, сядзелі ў суседніх партах. Школьны панадворак быў супольны, аднак не было супольных гульняў. Хадзілі і бегалі па тых самых вуліцах, але заўсёды асобна. Настаўнікі стараліся інтэграваць класныя грамадкі. З гэтай мэтай вызначалі месцы, дзе маюць сядзець вучні так, каб не вылучаць нацыянальных ці рэлігійных груп. Гэта не спрацоўвала. Яўрэйскія вучні заўсёды вярталіся на ранейшыя месцы, ствараючы такім чынам своеасаблівае партавае гета. Не пярэчу, былі выключэнні, асабліва сярод вучаніц. Яўрэйскія дзяўчыны былі больш кампанейскія, чым яўрэйскія хлопцы. Ахвотней удзельнічалі ў супольных забавах і ладжаных у школе мерапрыемствах. Дзяўчаты, без аглядкі на нацыянальнасць, дружылі з сабою. Хлопцы, у прынцыпе — не. А між дарослымі было па-рознаму. Яшчэ ў 1930-я гады людзі ўспаміналі, калі пасля вяртання з бежанства не мелі дзе жыць, бо іх хату заняла яўрэйская сям'я. Або яшчэ горш: калі іх вясковую хату раскідалі яўрэі і перанеслі ў Орлю, спадзяваючыся, што іх законныя ўласнікі ніколі не вернуцца. На такіх успамінах не вырастае дружба. Тыя крыўды, хаця нейкім чынам палагоджаныя, не да канца, аднак, былі забыты.

Калі параўноўваю свае ўспаміны з выказваннямі Вашых суразмоўцаў і з размовамі, якія правёў Павел Бушко, аўтар кнігі „Żyd Żydem. Wizerunek Żyda w kulturze ludowej podlaskich prawosławnych Białorusinów. Miasteczko Orla", тады перада мною з'яўляецца выснова, што сужыццё арлянскай грамадскасці не было ідыліяй. У штодзённых суседскіх дачыненнях было спакойна і з выгляду прыязна, аднак недзе ў глыбіні былі прыхаваны ўзаемныя крыўды.

**Тэкст Міхала МІНЦЭВІЧА**

# ЗАМІЖ ВЫХАДУ Ў ЦАРКВУ

Стаю я сабе нядаўна на набажэнстве, калі падбегла да мяне знаёмая і паставіла побач мяне торбу-рэкламоўку:

— Крыху агуркоў выбрала і Вам прынесла, — аб'явіла мне і пабегла далей.

Зусім тыя агуркі лішнія мне, але ж не буду ганяцца па храме за жанчынай, бо сабраны там народ зараз меў бы тэму для буйной вуснай народнай творчасці. Забраў я тыя агуркі і рашыў мінаць той храм, у якім мяне могуць спадзявацца, бо хто ведае, ці гэтая знаёмая або чарговая дабрадушная прыхаджанка не прынесла б мне туды мяшка гарбузоў ці кошыка бульбы. Або нават кацяня ці пеўня: жаночыя ж таленты — бязмежныя...

Тая запаведзь, каб помніць *дзень суботні*, загадала мне шукаць іншага культавага месца. Недалёка Беластока Кажаны, з'езджу туды — рашыў я. Сеў на поезд і заехаў у Зімнохі, адкуль непрацяглае паломніцтва ў Кажаны. Вакзальны будынак у Зімнохах вітае падарожніка шчыльна забітымі аконнымі праёмамі, аднак дзверы ў будынак адкрыты і ў пачакальні можна палюбавацца раскіданым па падлозе смеццем...

У напрамку Кажан трэба спярша прайсціся да жвіроўкі з Зімнохаў у Багданкі па яшчэ незарослай сцежцы, утаптанай калісь пешаходамі і ўезджанай веласіпедамі, якая пралягае побач пуці. А на гэтым пуці, пад рэйкамі, мазаіка шпал усіх пакаленняў. Ёсць яны і новенькія, пахучыя крэазотам, але ёсць і зусім дэзынтэграваныя ў выглядзе рассыпанага парахна. Не дзіва тады, што вагоны на гэтай лініі хістаюцца з боку ў бок, быццам гусей ганяючы, быццам шчыры спажывец па задушэўным пахмеллі.



Паміж Баранкамі і Багданкамі абшырная плантацыя парэчак, на якой не відаць плантатарскіх слядоў. У пачатку Багданкаў двухпавярховы мураваны школьны будынак, да якога асфальтавая дарожка зарастае травою. Па той дарожцы цераз наўсцяж адкрытую браму даверліва выходзіць на маё прывітанне жарабятка, непрывязанае; на школьным пляцы пасвіцца кабыла.

Мураваная паветка на аўтобусным прыпынку можа здавацца канструкцыяй салiднай, трывалай. У нармальных абставінах так, але ў экстрэмальных можа не вытрымаць напору прыроднай стыхіі; такая карціна на аўтобусным прыпынку ў Дарожках, які раструшчыла паламанае бурай дрэва.

Няспешна дабіраюся ў Кажаны, паказваецца тамашняя царква. На вялікі жаль, не відаць каля яе ніякага руху, ніякай душы. Перад царквою мемарыяльная табліца ў памяць праваслаўных жыхароў Юхнавецкай гміны, што загінулі ў час Другой сусветнай вайны. На прыцаркоўнай дошцы аб'яў пасінелы нумар „Нівы" з рэпартажам Ганны Кандрацюк з царкоўнага свята ў Злотніках. Але ніякай інфармацыі пра службы. Затое ёсць адрас прыходскага партала...

Ад могілак выходзіць маладая сямейка з двойкай дзетак. Пытаю ў іх, чаму няма набажэнства. Яны дакладна не ведаюць, але мяркуюць, што з прычыны рамонту ў царкве набажэнства адбываецца ў іншым месцы, магчыма — у Трычоўцы...

Калісь, здаецца, нейкая вестка падалася мне, што ёсць капліца ў недалёкіх Заячках. Падаўся я ў Заячкі. Там, у пачатку вёскі, выйшаў на дарогу, разглядаючыся па наваколлі, хлапчук; відаць — гарадскі. Пра капліцу нічога ён не ведае. Больш нікога ў Заячках не ўдаецца мне спаткаць. І ніякай капліцы не ўдаецца мне пабачыць. Падаюся ў суседнія Войшкі.

На лавачцы пара пажылых людзей; мужчына не гаворыць. Пытаю жанчыну пра магчымую капліцу ў Заячках, а яна нічога пра такую не ведае. На чарговай лавачцы сам мужчына, на ўсіх наракае — яго ўжо пра нішто не пытаю.

У нядзельку аўтобусы рэдка ездзяць цераз Войшкі, падаюся тады ў Рыбалы. Вяртаюся дадому, заглядаю на партал Кажанскага прыхода. У рубрыцы актуальнасцей толькі галерэя здымкаў з прыходскіх мерапрыемстваў. За адным з тых здымкаў падаецца ўказка пра змену месца набажэнстваў на час рамонту царквы — у капліцы ў Паньках-Заячках. А капліца тая, як пазней даведаюся ад знаёмых, звыш кіламетра ад Заячкаў, у напрамку Трычоўкі.

Можа і добра, што знаёмая падкінула мне тую торбачку агуркоў. Тыя ж агуркі — як грэшныя яблыкі з дрэва пазнання. Павалачыўся я вакол Кажан і Заячкаў, пабачыў крыху свету, а, вярнуўшыся, сёе-тое ўсё ж такі даведаўся.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# „Блажэнныя міласэрныя, бо яны памілаваны будуць”

Гэтыя евангельскія словы (Мф. 5, 7) з’яўляюцца дэвізам сёлетняй пілігрымкі папы Францішка ў Польшчу. Папа Францішак — аднадумец са сваім нябесным аднайменным патронам. Цэніць ён прастату, сціпласць і звычайныя, міжлюдскія суадносіны. Сэрцам ён звязаны з бруднымі сламсамі, шпіталямі і вязніцамі. Сябруе з непажаданымі ў большасці краін свету бежанцамі. Калі дораць яму на дзень нараджэння вельмі смачны торт, дзеліцца ім не з абслугай папскага палаца, але з найбольш галоднымі. Адмаўляецца не толькі ад багатай ежы, але і ад гасцініц ці празмернага выкарыстання свайго палітычнага становішча. Ці ўзрадаваўся б папа Францішак, убачыўшы пастаўлены яму помнік? Незразумелыя яму пастулаты прагнага капіталізму. Невыпадкова маладыя французы — удзельнікі Сусветных дзён моладзі спяваюць пад яго акном славутую «Марсельезу». Шчырая вера ў Бога выяўляецца таксама ў выбары сродкаў транспарту. Да шматлюдна сабраных вернікаў адпраўляецца не на верталёце ці браніраваным папамобіле, але звычайным трамваем альбо на машыне абклеенай словамі „Блажэнныя міласэрныя, бо яны памілаваны будуць”. Гэтыя словы — адзіная яго ахова ад мсцівых, прагных крыві тэрарыстаў. Нічога для сябе не патрабуе. Думае толькі пра іншых і дзеліцца з імі ўсім, што ў яго ёсць. Не крытыкуе, не папракае. Прамаўляе толькі сімваламі Святога Евангелля альбо багатай па змесце цішынёй. Здолеў пацягнуць за сабой моладзь з усяго свету, незалежна ад нацыянальнасці ці веравызнання. На жаль, не ў змозе ён пацягнуць дарослых, сфармаваных ужо палітыкаў, святароў, адказных за рэлігійнае выхаванне і палітычную стабілізацыю. Ці пачуюць яго словы, памецяць і выкарыстаюць дадзены ім шанц на выратаванне хілячайся да заняпаду рэлігійнасці на старым кантыненце, у тым ліку і ў нашай краіне? Сустрэчы папы-пілігрыма з польскімі епіскапамі і прадстаўнікамі дзяржаўных улад вельмі кароткія, літаральна некалькіхвілінныя. Надта яму спешна да хворых, нядужых, выключаных. Бяжыць на паратунак моладзі з пасведчаннем пра любоў да бліжняга, пра мір на зямлі. Ведае, што толькі ў моладзі надзея на збаўленне свету. Пра вайну гаворыць коратка і непасрэдна. Сцвярджае факт яе існавання. І няма тут мовы пра рэлігійную вайну. Шчыра перакананы, што ніякая рэлігія не ўспрымае вайны, не імкнецца да злога. Цяперашняя вайна не розніцца шмат ад усіх папярэдніх. Яе матывы вызначае прага ўлады, грошай, абарона ўласных інтарэсаў, нядобразычлівасць і несправядлівасць. Мора крыві нявінных людзей праліваецца ў выніку дзеянняў атуманеных злом тэрарыстаў.




Няхай заклік папы Францішка абараніць мір на зямлі падтрымаюць ураджэнні для будучыні з чэрвеня 1941 года. Гэтыя вельмі актуальныя па змесце думкі нарадзіліся ў галаве французскага ваеннапалоннага. Яго ліст знайшлі шмат гадоў пазней, у час рамонту хаты ў падольштынскай, калісь нямецкай, вёсцы.

„У Нямеччыне не хапае амаль усяго, але найбольш не хапае зразумення. Немцы не хочуць зразумець, што правадыр вядзе іх да паражэння. У вайне бачылі вырашэнне сваёй галечы. Напоўненыя мелкай, але хітрай прапагандай, верылі, што за іх галечу адказныя жыды, англічане і дэмакраты — памылялі іх з капіталізмам, так як памылялі нацызм з сацыялізмам. Іх памылка будзе каштаваць сотні тысяч людскіх жыццяў і сотні знішчаных гарадоў. Спадзяюся, што перамога Англіі зможа разам з надыходам спакою выявіць гэту праўду. Тут цалкам някепска. Мясцовыя ставяцца да нас ветліва. Малыя дзеткі ўспрымаюць нас стрымана, але не як ворагаў ці небяспеку. Пісаў я нават сваім бацькам, што адчуваю сябе крыху часткай сям’і. Харчы тут прымітыўныя: масла, джэм, бульба, варанае мяса, вараная свініна, смажанае на пятэльні сала, яйкі ўсмятку, яечня. Ніякай агародніны — ні свежай, ні сушанай, ніякага свежага мяса, кансерваў ні іншых прадуктаў. Толькі штучны мёд, масла, джэм. Сяляне спажываюць жытні хлеб, да таго кепска рыхтаваны... У іх хатах атрымліваем больш свабоды, чым здолелі б мы даць у Францыі чужым, а нават нейкім сваім суайчыннікам. Тут менш сарамлівасці ва ўсім і да ўсяго, чым у нас... Пачуццём, якое будзе мне спадарожнічаць у Францыі, калі пашанцуе мне туды вярнуцца, будзе тое, што жыў я ў краіне, якой асноўнай «ранай» з’яўляецца невуцтва ў сферы сучаснай замежнай палітыкі. Зазнайства, якога адной з прыкмет з’яўляецца мілітарызм, вядзе гэты народ да веры ў сваю выключнасць і падштурхоўвае яго непасрэдна да вайны... Каб гэты вялікі народ змог зразумець сваю памылку, неабходна знайсці мір і наладзіць паспяховае супрацоўніцтва для шчасця чалавецтва і захавання міру... Восем гадоў нацызму больш пашкодзіла ў галіне інтэлігенцыі, чым усе разам узятыя землетрасенні і вывяржэнні вулканаў. Крычу: Жывуць немцы! Але смерць Гітлеру і смерць гітлераўцам. Гавару немцам: Мае сябры, будзьце асцярожнымі ў будучыні, увесь свет будзе на вас глядзець быццам на дзіўнага чалавека, абцяжаранага вірусам вайны. Вывучайце свет, вучыцеся. Зразумейце і спрабуйце супрацоўнічаць дзеля міру, у пабудове заўтра, якое рыхтуецца. У Францыі „Le Front Populaire” дазволіў на развіццё эпохі багацця і шчасця. Французскія рабочыя жылі дзесяць разоў лепш, чым тутэйшыя начальнікі. Напіваліся, мабыць, менш, але елі і пілі лепш, чым яны, і былі ў іх прыемнасці, невядомыя тутэйшым. У Францыі не ідзем у бар, каб напіцца, але каб пагаварыць з сябрамі. Тут выходзяць з бара зусім п’янымі, і неаднойчы трэба іх валачыць у калясцы... Ад часу да часу мы вымушаны падпісваць ім заявы, дзе напісана: «Ведаю, што забаронена мне мець сексуальныя суадносіны з нямецкай жанчынай». Спадар Гітлер і нацысцкая ўправа не надта паважаюць нямецкіх жанчын. Няхай супакояцца, не хочам усё жыццё шкадаваць, што праз нас цярпіць у Нямеччыне нявінны чалавек з французскай кроўю. Мы ахвотна пакінем іх жанчын, няхай вернуць нам нашу Францыю, нашу Рэспубліку і няхай пакінуць нас у спакоі. Гэта не толькі спадзяванні, усяго гэтага чакаем і спадзяемся, што Англія зможа нам гэта вярнуць. Жыве Чэрчыль, жыве Ідэн, жыве Англія, жыве Рэспубліка Францыя, жывуць Злучаныя Штаты Амерыкі, жыве Еўропа” (T. Sowiński, *Epizody z Prus czyli historie okołowojenne*, Olsztyn 2009, s. 21).

Іаанна ЧАБАН

## Страхаваць — абавязкова, ці добраахвотна?

Не часта прыходзіцца мне карыстацца банкавым крэдытам, але сёлета ў траўні вымушаны я быў звярнуцца да гэтай «дабрадзейнасці». Дамову заключаў я з цэнтрам «Альёр банка» ў Варшаве па тэлефоне, а дакументы падпісваў і грошы выплачвалі ў аддзяленні таго ж банка ў Беластоку, па вул. Ліпавай, 34. У час афармлення дакументаў не было магчымасці пазнаёміцца з правіламі дамовы, «Умовамі страхавання», а перш за ўсё ніхто не намякнуў аб магчымасці адмовіцца ад страхоўкі. І выніклі складанасці. У страхавым полісе «На жыццё» гаворыцца, што кампенсацыя за страчанае здароўе ў час няшчасных выпадкаў — інваліднасці належыцца ў 30% страхавой сумы і 100% у выпадку смерці. У заключэнні полісу неабходна было падпісаць дэкларацыю аб стане здароўя. І тут мяне ашарашыла прыпіска трэцяга пункта, пад якім я распісаўся: «W okresie ostatnich 12 miesięcy nie rozpoznano u mnie, nie zlecono mi regularnego leczenia lub nie przebywałem pod stałym nadzorem lekarskim (w tym w związku z pobytem szpitalnym) z powodu: nowotworu złośliwego, choroby krwi, wady serca, choroby niedokrwiennej serca, nadciśnienia tętniczego, zawału serca, udaru mózgu, astmy oskrzelowej przewlekłej, obturacyjnej choroby płuc, wirusowego stanu wątroby, marskości wątroby, chorób trzustki, wrzodziejącego zapalenia jelit, choroby Grohna, przewlekłego zapalenia nerek, cukrzycy, zakażenia HIV, choroby AIDS, padaczki, zaburzeń psychicznych, w tym zaburzeń spowodowanych używaniem substancji psychoaktywnych, depresji». Гэта ж усё няпраўда. Мой стан здароўя пярэчыць гэтаму. Значыцца, я зламысна парушыў закон і можна будзе мяне прыцягнуць да адказнасці.

Каб выправіць памылку, я паслаў заказным пісьмом папраўку да падпісанай дэкларацыі, з адначасовым патрабаваннем неадкладна адступіць ад страхавой дамовы. У аргументацыі спаслаўся на правілы страхавой дамовы параграф 3, пункты 3-4, якія даюць магчымасць адступіць ад заключэння страхавання ў давольным тэрміне без выяўлення прычыны. І тут узнікае асечка. Мая пісьмовая заява, пасланая 18 траўня заказным пісьмом, застаецца без адказу. Таксама без адказу застаюцца пасланыя па электроннай пошце тры напаміны. Дагэтуль незразумелым застаецца мне маўчанне цэнтралі «Альёр банка» ў Варшаве. Але я не апускаю рук. Буду хадайнічаць у Заступніка правоў спажыўцоў. Усё ж такі закон на маім баку — кліент мае права адказацца пры крэдыце ад страхавання. Гэта, на маю думку, адно лішняе выкіданне грошай у карысць банка. Разважце, даражэнькія, калі будзеце браць крэдыт і вам запрапануюць страхоўку «На жыццё», ці варта пакарыстацца такой банкаўскай паслугай.

**Уладзімір СІДАРУК**




Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Кампазітар блізкі майму сэрцу!




Агата УСЦІНОВІЧ (справа) і Зузя КАРДЗЮКЕВІЧ

Ян Тарасевіч — цудоўны, беларускі кампазітар. Ён нарадзіўся ў Саколцы ў 1893 годзе. У хаце ён меў настаўніцу-«гувернантку», якая вучыла яго французскай мове. Музыкай захапіўся ў дзіцячыя гады. Ён слухаў як старэйшая сятра іграла на піяніна і сам пачаў іграць. Калі яму было 10 гадоў, ужо выступаў па шляхецкіх дварах, дзе іграў творы Шапэна і Ліста.

Жыццё музыканта было насычанае драматычнымі здарэннямі. У сем гадоў Ян Тарасевіч страціў бацькоў і застаўся круглым сіратой. Яго і старэйшых сястру і брата прынялі на выхаванне сваякі: Леакадзія і Нічыпар Улазоўскія. Яны былі ўласнікамі маёнтка Шындзель каля Саколкі і дбалі пра адукацыю дзяцей. У 1903 годзе Тарасевіч паступіў у кадэцкі корпус у Пскове, а пасля яго перавялі ў Полацк, каб было бліжэй хаты. Пасля вайсковай школы ён паступіў у Пецярбургскую кансерваторыю, якую закончыў з найвышэйшай адзнакай. У якасці ўзнагароды атрымаў фартэпіяна. У той час даваў шмат канцэртаў, выступаў нават на царскім двары. Яго творы друкавала прэстыжнае выдавецтва Юргенсона.

Пасля рэвалюцыі 1917 года вяртаецца на радзіму. У 1918-1919 гадах вядзе ўрокі музыкі ў беларускай школе ў Гродне. Піша шмат харавых кампазіцый на словы беларускіх паэтаў: Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Францішка Багушэвіча...



мал. Олі Яроцкай

У міжваенныя гады жыве ў маёнткуШындзель. Ён — арганізатар музычнага жыцця ў Саколцы. Вядзе прыватныя ўрокі ігры на піяніна для моладзі з Саколкі, Гродна і Беластока. Пасля Другой сусветнай вайны пасяляецца ў Беластоку, дзе працуе ў Ніжэйшай музычнай школе сясцёр Франкевічанак. Тут мае шмат вучняў, між іншым пад яго ўплывам знаходзіцца Ежы Максімюк, сучасны дырыжор сусветнай вядомасці. Ян Тарасевіч памёр 18 чэрвеня 1961 года. Па сваім жаданні ён пахаваны на могілках у Саколцы.

Ян Тарасевіч напісаў многа кампазіцый, якія мы мелі нагоду паслухаць у час Сустрэч «Зоркі». Люблю яго музыку. Яна спакойная, але дае радасць сэрцу. Думаю, што музыка гэтага кампазітара будзе для мяне заўсёды блізкай. Шкада толькі, што такая цудоўная музыка мала вядомая нашаму грамадству.

**Агата УСЦІНОВІЧ, «Парнасік»**

**Вераніка Кардзюкевіч, «Зорнымі вачыма»**

## Мы

Я і Ты
гэта мы

Люблю я Цябе...

Твой дзень
Калі я чытаю хаджу

Тваю ноч
калі я хачу спакойна спаць
і Твае ўсходы сонца
калі я ляжу і бачу новы дзень

Люблю я Цябе

Твой лес
у якім я малюся да Бога

Тваю рэчку
Якая плыве непадалёк
маёй роднай хаты
і Тваё неба
на якое я спаглядаю з надзеяй

Люблю я Цябе
Айчына мая дарагая

## УВАГА КОНКУРС! № 34-16

## Загадкі з роднай хаткі

**З-пад мохавай сховы
павысоўвалі хлопцы галовы.
Хто ні ідзе — іх вітае,
З сабой забірае.
Г....**
(Уладзімір Карызна)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 28 жніўня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 30-32: маланка. Узнагароду выйграла Сара Скаўронская з Беластока.**

# Перспектыўная паэтэса

Гутарка з **Юліяй Бяганскай**, якая з верасня стане вучаніцай белліцэя ў Гайнаўцы. На Сустрэчах «Зоркі» Юлія ўразіла нас індывідуальнасцю і пранікнёнасцю сваіх вершаў.

**«Зорнымі вачыма»**: — *Мы ведаем, што Ты цікавішся малюнкам. Што найбольш любіш рысаваць?*

**Юлія Бяганская:** — Дрэвы, людзей. Усё залежыць ад майго настрою.

**З.В.:** — *А што натхняе да пісання?*

**Ю.Б.:** — Часам здарэнне, выпадак. Не так даўно, бо ў сакавіку, памёр мой сябра. Мы не бачыліся шмат гадоў, але ён часта пісаў мне лісты. Дасылаў падарункі. Калі ён памёр, я ўцякла ў паэзію. Яна дазваляе выкінуць з сябе змрочныя эмоцыі і думкі. Мне цяжка змірыцца з гэтай смерцю.

**З.В.:** — *Хто першы чытач Тваіх вершаў?*

**Ю.Б.:** — Мая сяброўка Вікторыя.

**З.В.:** — *Ці заўсёды паказваеш ёй свае вершы?*


*Юлія Бяганская*

Фота Г.К.

**Ю.Б.:** — Не, не заўсёды хачу паказваць іх.Частка ляжыць на маёй паліцы, іх шмат.

**З.В.:** — *Час прыступіць да конкурсу «Дэбют».*

**Ю.Б.:** — Паспрабую, не ведаю што з гэтага атрымаецца. У мяне ўжо падрыхтаваны адзін верш на конкурс.

**З.В.:** — *На Сустрэчах вучымся пісаць і думаць па-беларуску. Што гэта для Цябе значыць?*

**Ю.Б.:** — Гэта значыць тое, што беларуская мова для мяне родная. Мая бабуля, мама — беларускі. Таму і я стараюся як найлепш вывучыць мову. Хачу, каб яна не знікла, каб заўсёды існавала...

**З.В.:** — *Ці ў хаце размаўляеце па-беларуску?*

**Ю.Б.:** — У хаце гавару па-свойму, але з мамай размаўляем па-польску. Яна па адукацыі паланістка.

**З.В.:** — *Наколькі для Цябе важная беларуская мова?*

**Ю.Б.:** — Вядома, у школе размаўляем па-польску, але беларуская мова для мяне найбліжэйшая. Дзякуючы ёй я магу поўнасцю адрэагаваць і знайсці свой сапраўдны свет.

**З.В.:** — *Што хочаш рабіць у жыцці?*

**Ю.Б.:** — Хачу быць судовым куратарам, думаю таксама пра беларускую філалогію. Гэтая думка ўзнікла тады, калі я пачала вывучаць беларускую мову.

**З.В.:** — *А ці ёсць у Цябе вершы на польскай мове? На якой мове пішаш?*

**Ю.Б.:** — Па-польску мае вершы не гучаць так файна як па-беларуску. Я ўжо гаварыла, што па-беларуску мне лягчэй называць эмоцыі. Тады верш шчыры, ён дапамагае мне, думаю, што чытачам таксама...

**З.В.:** — *Дзякуем за размову!*

Гутарку правялі **_Оля Буслоўская і Вераніка Кардзюкевіч_**, перапісала **_Агнешка Здаsucceeded_**


Малюнак Юліі Бяганскай


Фота Г.К.

*Агнешка Здаsucceeded*

**Юліі Бяганская, „Зорны шлях”**

* * *

**мы ўсе памерлі**
**мала хто жыве**
**мы ўсе памерлі**
**мала хто ведае**
**мы ўсе памерлі**
**мёртвыя зямля і свет**
**мы ўсе памерлі**
**мастацтва яшчэ не**
**мы ўсе памерлі**
**мала хто жыве**
**мы ўсе памерлі**
**а ты яшчэ жывы**
**спытай сябе**

## Вершы Віктара Шведа



### Бяздомныя

Спытаў бяздомны:
— Жывеш ты дзе?
Той кажа скромна:
— Не жыву нідзе.

— Жыць трэба недзе
З волі Нябёс.
Вітай, Суседзе!
З'яднаў нас лёс.

### Дзівакі слімакі

Сустрэліся два слімакі
На палявой сцяжыне.
Адзін з іх кажа:
Будзь здароў!
Што бачыш ты ў краіне?

— Гляну налева
— бачу ўсход,
Направа — захад сонца.
І толькі розных перашкод
У далечыні бясконцай.

## Польска-беларуская крыжаванка № 34-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 30:**

Сена, збан, арт, ксёндз, цвыркун, на, марш, нос, маё, крок, сойм, слых. Ніка, сэрца, нос, цмок, квас, сыр, ёрш, банк, мох, Дунай, незнаёмы.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Вершы Андрэя Сцяпанюка



**Андрэй Сцепанюк** — нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску Падляшскім, дзе і жыве. Паэт, творы друкаваліся ў «Ніве», часопісах «Сустрэчы», «Дзеяслоў», альманахах «Белавежа» і «Тэрмапілы».Дырэктар ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім.

## Старыя жанчыны

*Старыя жанчыны не плачуць*
*Іх слёзы ўжо даўно адплылі*
*Яны глядзяць непарушна ў далячынь акна*

### *Першая. Марыя малодшая*

Бедна было гаворыць
і ў трыццаць чацвёртым маіх народзінаў
і за палякаў і за першых саветаў і за немцаў
Бедна было але шчаслівa
я была тады маладзіцай

Старая жанчына памятае аб тым
аб чым даўно забылі яе ўнукі
Яе рукі паламаныя працай і хваробамі
трымаюць у сабе радасць новага жыцця

Калі пачалі жыць у горадзе таксама было цяжка
але надзеяй сталі дзеці
Старая жанчына маўчыць
яе баляць непатрэбныя словы
Дзеці пайшлі

### *Другая. Марыя старэйшая*

Мама ўсё жыццё стагналі
Чаго енчыце мамо пытаю
Каб лягчэй было адказваюць

Шэсць жанчын без мужчыны
Той адзіны які быў спачатку пачаў кашляць
а праз пяць месяцаў памёр на сухоты

Старая жанчына не плача
яе слёзы засталіся ў маладосці
На магіле мужыка і дзяцей яна не паліць свечак
Яна памятае

### *Трэцяя. Кацярына*

На дарогу мама не далі нічога
Гэта толькі ў песні даюць ручнікі
Не далі бо нічога не было
Халодныя сцены зямлянкі
якую выкапалі побач спаленай хаты
і круглыя ад голаду жываты

На дарогу мама далі малітву
і змучанай рукой паставілі знак крыжа на чале

Старая жанчына вырваная з роднай зямлі
ніколі не вярнулася
Яна злілася з індустрыяй новага часу
яе мова стала лёгкай і звонкай
а пустата вачэй схавалася
пад цёмнымі акулярамі

### *Чацвёртая. Вольга*

Сцены самоты не разарваныя
як хвароба адзервянелай душы
Таблеткі з крыжыкам каб не балела
і немагчымасць палічыць усе пальцы рук

Ніхто не прыйшоў і ніхто не ідзе
Дарога не розніцца нічым у васямнаццаць
сорак і восемдзесят

Старая жанчына адыходзіць ад акна
пачуўшы голас зямлі кладзецца на падлозе
памірае

### *Пятая. Вера*

Я кахала а ён піў
Я кахала а ён біў
Я ўцякала а ён плакаў

І былі дзеці

Я кахала а яны пілі
Я чакала а яны адыходзілі
Я шукала і яны вярталіся

І прыйшла смерць

Ён маўчаў і я не плакала
а дзеці пастарэлі

## Літаратура

*Міхасю Андрасюку*

У паэзіі няма крылаў
вочы чорныя ёсць
і белая вопратка

На талерцы дзён
паэзія ляжыць непарушна
і апавядае
нямыя гісторыі

У паэзіі няма прозы
Проза ходзіць
брукаванымі дарогамі
з мазалямі на руках
крычыць горлам вар'ятаў
і іншых чужаземцаў

Проза ніколі не маўчыць
не зліваецца з бляскам вачэй
не чакае нечаканага
Проза не выкрадае ў паэзіі слоў
не хімернічае
яна не ведае што такое хімера

Паэзія і проза гэта позы
як быць і адначасова адыходзіць

**Дваццаць гадоў таму, у палове жніўня 1996 года дэкрэтам тагачаснага мітрапаліта Васілія быў устаноўлены прыход у Баратынцы-Рускім, што каля Сямятыч. Нябесанай заступніцай прыхода стала святая Анна...**



# На Анну ў Баратынцы

У нядзелю, 7 жніўня, у дзень памяці заступніцы прыхода стаяла прыгожае сонечнае надвор'е. У прыходскую царкву, распаложаную паміж Баратынцам-Рускім і Сямятычамі-Станцыяй, з'явіўся я каля паловы дзясятай, сама служыўся акафіст. Народу многа не было, некалькі дзясяткаў душ. Але з ходам часу народ няспешна напаўняў храм і неўзабаве давялося мне ўступіць у ім месца больш прававітым вернікам і адступіць навонкі даволі ўсё-такі камернай царквы. Неўзабаве шмат народу сабралася і на абшырным прыцаркоўным пляцы. Колькі было прыблізна душ — складана ацаніць, але ўскосна ўдалося мне пра гэта даведацца з размовы стаячых побач мяне дзвюх верніц:

— Dużo ludzi się zebrało, więcej jak na Piotra.

— I więcej jak na Eliasza.

— W Słochach było osiemnastu baciuszków, ładnie służyli. A tu mało.

— Pewnie do Kornina pojechali.

— A gdzie ten Kornin?

— Gdzieś daleko...

Дарэчы, большасць сабраных людзей, што стаялі навонкі царквы, была занята менавіта размовамі. Бо прыхадское свята — гэта сямейнае свята, гэта нагода спаткацца са знаёмымі, часта даўно бачанымі, бо ж цяпер мясцовы народ рассыпаўся па шырокім свеце. І па людзях было відаць, што ўжо ўсё паміж імі ўстаноўлена, што ўжо зафіксаваны парадак дня пасля набажэнства. А народу было сапраўды шмат і то акурат таго найбольш вітальнага, найбольш энергічнага. І відаць было пэўную алегорыю раю, дзе ў настрої святочнасці прысутныя Евы вабілі прысутных Адамаў усялякімі прыёмамі прыцягальнасці. Нечаму дзівавацца, усялякія ўрачыстасці менавіта і маюць за мэту намагнічванне людскога роду...

Цікавая была пропаведзь з прывязкай да касмагоніі. Менавіта галоўную персону свята, праведную Анну, прапаведнік пазіцыянаваў амаль у пачатку ўсяго свету. Прыраўноўваючы яе да старазапаветнай Сары, прамаці выбранага народа, выказаў высноўу пра праведную Анну як прамаці ўсяго чалавецтва; вядома, у хрысціянскім сэнсе...

У кананічных евангеллях згадкі пра праведную Анну няма, затое згадваецца яна ў апокрыфах. Менавіта, паводле тых апокрыфаў, яна са сваім мужам Якімам жылі ў Назарэце, былі вельмі набожным сужонствам, якія, аднак, як Сара і Аўраам, не мелі дзяцей. А такія ў стараяўрэйскім грамадстве лічыліся людзьмі горшай катэгорыі. І з-за гэтага ад Якіма святар не прыняў ахвяры, якую той прынёс у храм. Якім падаўся тады на сорак дзён у пустыню, а Анна малітоўна паабяцала, што калі Гасподзь зніме з яе бяздзетнасць, яна тую дзетку ахвяруе Усявышняму. З'явіўся анёл і аб'явіў, што іх малітва выслухана. Дзіцятка назвалі Марыяй...

Нямецкі сярэдневяковы тэолаг Іахан Эк меркаваў больш: што Якім неўзабаве, пасля ўвядзення Марыі ў храм, памёр, а Ганна, аўдавеўшы, выйшла паўторна замуж, нарадзіўшы чарговую дачку, якая выйшла замуж за Алфея, а пасля смерці другога мужа, яшчэ раз, нарадзіўшы трэцюю дачку, якая выйшла замуж за Завядзея. Ад тых дачок, паводле Эка, пайшлі чарговыя ўнукі Анны, у якіх ліку былі апосталы Сіман, Іуда, Іаан, Фадзей, абодва Якавы — Алфееў і Зявядзееў — ды евангеліст Матфей. Калі так было, дык праведная Анна сыграла сапраўды касмічную ролю...

Вікіпедыя: „Ганна (іўр.: Боская ласка, вытанчанасць) — жаночае імя старажытнашумерскага паходжання. У шумерскай міфалогіі ды рэлігіі — цэнтральнае жаночае боства, першапачаткова Інанна, доч бога Нанны, праўнучка бога Ана". Значыць — месца Анны ў касмагоніі неаспрэчнае...

А ў польскай версіі: „**Anna jest najpopularniejszym imieniem w Polsce. Według stanu na marzec 2009 r. imię to nosi 1 073 778 kobiet w Polsce, czyli 5,4% populacji żeńskiej kraju i jest ono ponad 1,5 raza częstsze, niż drugie co do popularności imię w Polsce — Maria (677 112 nadań)**". Такім чынам амаль кожная дзясятая жанчына ў Польшчы з'яўляецца цёзкай або Маці, або Бабулі Ісуса; наша краіна вельмі хрысціянская і з гэтага боку гледжання... Ды не толькі ў Польшчы — імем Анны і яго розных варыянтаў былі названы шматлікія славутыя жанчыны; па ўсім свеце. У тым ліку і ў Беларусі...

Найслаўнейшай беларускай Ганнай лічыцца Ганна Барысевіч. Вікіпедыя: „Ганна Адамаўна Барысевіч (6 (18) мая 1888, в. Буды паблізу Ігумена — 23 лютага 2007, Мінск) — старэйшая, незарэгістраваная ў Кнізе рэкордаў Гінэса, жыхарка Беларусі. На час смерці была старэйшай жыхаркай Беларусі і, паводле сродкаў масавай інфармацыі, у свеце. Пражыла 118 гадоў і 281 дзён. Нарадзілася ў сялянскай сям'і Адама Навіцкага і яго другой жонкі — Юзэфы. СМІ зацікавіліся Ганнай Барысевіч у 2004 годзе. Калі жанчына змяняла пашпарт, чыноўнікі звярнулі ўвагу на яе ўзрост — 115 гадоў. Першапачаткова падазравалі памылку. Перад публікацыяй Кнігі рэкордаў Гінэса за 2007 год Беларусь падала заяву аб унясенні ў яе Ганны Барысевіч у якасці рэкардсменкі даўгалецця, але кандыдатура жыхаркі Беларусі была прапушчана. Рэдактары выдавецтва не мелі даверу да дакументаў, выдадзеных у краінах былога Савецкага Саюза. У 2007 годзе афіцыйны сусветны рэкорд даўгалецця прызналі за 114-гадовай жыхаркай Японіі, тым часам Ганне Барысевіч споўнілася 118 гадоў".

Варта, за Вікіпедыяй, прывесці ейныя бытавыя погляды: „З усіх палітычных постацей найболей паважала Леніна: Ленін раскідаў капіталістаў, зямлі людзям даў. Але мала так пабыло: Сталін усіх хутка заламаў у калгасы. Па яе меркаваннях, лепшым перыядам была эпоха Брэжнева: ...калі адмянілі падатак на кожнае пладовае дрэва, мы сталі спакойна вырошчваць на сваім гародзе ўсё, што хацелі. І нічога не плацілі за гэта. Пра Лукашэнку ведала, але асабліва не цікавілася, крыўдавала на раённыя і гарадскія ўлады за іх абяцанні. У інтэрв'ю, калі Барысевіч споўнілася 117 гадоў, выказала меркаванні пра няроўнае стаўленне да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і радавых грамадзян: Вайскоўцы ваявалі на вайне са зброяй, а я з рыдлёўкай на зямлі ваявала. Капалі рыдлёўкай і сеялі, таму што коней не было, пабралі немцы, дык самі запрагаліся ў плуг. Нам цяпер ніякіх прывілеяў няма, а тым, ваенным, ёсць. Яны заслужылі, а мы не заслужылі, што кармілі і партызан. Ваенным дык пенсію добрую далі, а мне і пенсіі добрай не далі...".

Пісьменнік Альгерд Бахарэвіч: „Ганна Барысевіч нарадзілася за царом Аляксандрам III Міратворцам, а памерла за Лукашэнкам. Выходзіць, яна паспела пажыць пад уладай двух цароў, БНР і БССР, Леніна, Сталіна, Гітлера, зноў Сталіна, Хрушчова, Брэжнева, Чарненкі, Андропава, паспела сустрэць незалежнасць і надыход дыктатуры... Так, тут замест кропкі значна больш дарэчна будзе выглядаць шматкроп'е. Бо пасля такога сыпсу неяк і ягонае сумнае заканчэнне ўспрымаецца больш спакойна. Мінае ўсё, міне і гэта. Ганна Барысевіч — гісторыя краіны, увасобленая ў адной жанчыне. Сьведчаньне ня толькі таго, што тут усё паўтараецца, але і таго, што тут насамрэч нічога ніколі не стаіць на месцы і кожная ўлада ня проста ня вечная — яна як дождж або паводка, і сур'ёзна ставіцца да яе можа толькі камар. Пацьверджаньне таго, што ў апошнія 118 гадоў тут ніколі не было ніякай стабільнасьці і ніякай згоды, што тут амаль заўжды гаспадарылі ўсе, хто заўгодна, толькі не тутэйшыя. А тутэйшыя — жылі сабе. І выміраць, як бачым, ня надта сьпяшаліся... Была непісьменная — што яшчэ раз даказвае: грамата — яна нікога да дабра не даводзіць. Калі была на душы туга, сьпявала песьні. Калі было трэба — падымала чарку. Ні пра што не шкадавала. І нам на разьвітаньне шкадаваць ня раіла...".

Амаль сорак гадоў таму ў Баратынец-Рускі быў завітаў Мікола Гайдук і так пісаў пра вёску ў 1977 годзе: „Пачаткі абедзвюх вёсак (мова яшчэ пра недалёкі Баратынец-Ляцкі — А. В.) крыюцца ў адным сяле, якое паўстала, мабыць, у раннім сярэднявеччы. На гэтую амаль тысячагадовую даўнасць паказвае сама назва „Баратынец", якая паходзіць ад папулярнага ў IX-XIII стагоддзях усходнеславянскага імя „Борислав" (ад яго выводзіліся імёны „Борис", „Борята" і іншыя)."

З гэтым этымалагічным меркаваннем можна згадзіцца, а можна і не згадзіцца. Бо той жа наш Мікола Гайдук пісаў пра Баратынец далей: „Не будзе лішнім прыгадаць вельмі старое паданне пра тое, што чорт уночы ўвасабляецца ў барана або ката. І так на дарозе каля Галасоўкі, побач „здрою" і „болотэчка", да праходзячага ноччу чалавека калісьці выбягаў чорны кот, круціўся навокал, стараючыся „збіті з дорогі" ды вывесці ў поле...". Зыгмунт Глогер меркаваў таксама на гэты конт: „**Z wyrazu bór powstało imię polsko-słowiańskie Borysław, Borys, Borek i Boruta. Podania o Borucie, który zajęty był straszeniem ludzi nocą po groblach i lasach i płataniem psot przez sprowadzanie ich z dobrej drogi, a ukazywał się nieraz w postaci psa czarnego, krążyły w całym kraju, zarówno u ludu jak szlachty, z tą różnicą, że lud w nie wierzył, a szlachta z nich się śmiała**". І ці не ад гэтага менавіта Баруты пайшла, у выніку невялікіх трансфармацый, і назва мясцовасці, каля якой гарэзнічаў чорны кот?..

Мікола Гайдук: „Відаць, гэта першапачаткова было сяло, у якім жылі сяляне ўсходнеславянскага паходжання. Потым, калі пасля нейкай кровапралітнай вайны або смертаноснай пошасці аказалася многа палеткаў пустых, іх былі „пасаджаны" сяляне мазавецкага паходжання. Гэта наступіла калі не пры вялікім князі літоўскім Вітаўце, які вельмі любіў Надбужжа, часта і доўга прабываў у Драгічыне, дык напэўна пры ўладальніцы Сямятыч і навакольля Анне Ябланоўскай, што вяла тут актыўную гаспадарчую і культурную дзейнасць у другой палове XVIII стагоддзя".

Імя Анна з'явілася на Блізкім Усходзе і адтуль распаўсюдзілася па ўсім свеце. Адтуль жа выйшла племя бежанцаў, якое таксама разбеглася па ўсім свеце, не абмінуўшы і Сямятыч. Яўрэйская энцыклапедыя, якая выйшла напярэдадні Першай сусветнай вайны: „Анна Яблоновская-Сапега в стремлении сделать из С.[емятич] главный пункт торговли Подляхии выхлопотала у короля Станислава-Августа разрешение на учреждение четырехнедельной ярмарки. Ввиду того, что евр.[ейское] кладбище почти вплотную подходило к каменной ограде замка, княгиня обещала представителям общины взамен упразднения кладбища выстроить двухэтажное здание — ратушу, с лавками и жилыми помещениями. Представители общины тщетно умоляли княгиню не совершать святотатства, но княгиня приступила к удалению костей. Когда через несколько лет заболел и умер старший сын княгини, она, увидев в этом наказание Божие, решила выстроить синагогу на месте, где стоял ветхий домик разрушенного кладбища. Евреи отказались сначала от этого дара (синагога была закончена в 1755 г.), но с течением времени община примирилась с княгиней, оказывавшей евреям много добра. По субботам читали особую молитву за здоровье княгини и ее семейства".

Хто ведае, ці гэта не агульная цёплая памяць пра княгіню Анну Ябланоўскую пасадзейнічала выбару нябеснай заступніцы баратынецкага храма; па-суседску ж і вёска Анусін... А можа наваколле Сямятыч з'яўляецца такім месцам моцы, якое прыцягвае касмічную наменклатурную ўвагу — недалёка ж адсюль, для прыкладу, рачулка Магамет... Адкуль бы не глядзець, імя Анна — касмічнае...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Творчасць

# Выстава мастака з Бацютаў адкрылася ў Дзятлаве

У Дзятлаўскім цэнтры культуры адкрылася выстава беларускага кераміста, жывапісца, скульптара, сябра Саюза беларускіх мастакоў Мікалая Несцярэўскага пад агульнай назвай «Сэнс жыцця — мастацтва». Выстава прымеркавана да 85-годдзя мастака.

Мікалай Несцярэўскі родам з вёскі Бацюты, якая знаходзіцца недалёка ад Беластока. «Бацька мой рана памёр, — згадвае Мікалай Лаўрэнцьевіч. — Аднойчы ён паехаў па сена зімою, а лёд быў слабы і ён з сябрам праваліўся пад лёд. Пакуль выцягнулі коней і сані, то моцна змерзлі. Пасля бацька хутка захварэў на сухоты і памёр. Яго пахавалі ў Бацютах. А маці з цягам часу выйшла замуж за другога». Родныя Бацюты сям'я Несцярэўскіх пакінула адразу пасля вайны ў 1945 годзе. «Гэта быў той час, калі палякаў перасялялі ў Польшчу, а беларусаў гналі на Усход. Мы вельмі не хацелі пакідаць Бацют, бо ў нас было 18 гектараў зямлі, 5 кароў, некалькі коней, шмат свіней, авечак, сотні курэй. Мы жылі даволі добра. Праўда, шмат працавалі, але і шмат мелі. Жылі заможна ажно да восені 1939 года. А калі прыйшлі бальшавікі, то жыць стала цяжка. І мы пад прымусам пераехалі да сваякоў у Дзятлава на Гарадзеншчыну», — распавядае Мікалай Несцярэўскі.

У 16 гадоў Коля Несцярэўскі пайшоў працаваць у дзятлаўскую арцель «Чырвоны Кастрычнік». Там выраблялі мэблю. Спачатку хлопца прынялі вучнем сталяра, а з цягам часу ён стаў працаваць самастойна. Навучыўся рабіць розную мэблю. Сам выконваў эскізы, сам жа іх і ўвасабляў у рэальныя рэчы. Прыродныя здольнасці, кемлівасць, спрыт у руках ужо тады вылучалі юнака. А яшчэ высветлілася, што ён можа добра спяваць, танцаваць, іграць на розных музычных інструментах. І ў 1955 годзе Мікалая паклікалі на працу ў Дзятлаўскі раённы Дом культуры. Там арганізаваў аркестр, доўгі час ім кіраваў, сам іграў на трубе. Калі ў Дзятлаве задумалі стварыць лялечны тэатр, то намаляваць і зрабіць лялек узяўся Несцярэўскі. Удалося паставіць нават некалькі спектакляў. Шмат давялося вандраваць па Дзятлаўшчыне з канцэртамі, пастаноўкамі. А яшчэ юнак паспяваў вучыцца. Працоўны ў Доме культуры, ён скончыў Гарадзенскае культасветвучылішча, а пазней — Менскі тэатральна-мастацкі інстытут. Аднойчы ён пачуў пра Івянецкую фабрыку мастацкай керамікі і вышыўкі. Вырашыў паехаць туды і папрасіцца на працу. Хлопца ўзялі, і зноў ён стаў вучнем. Пераймаў у вопытных працаўнікоў сакрэты ганчарнага майстэрства. А пасля інстытута Мікалай Несцярэўскі трапіў на Менскі мастацка-вытворчы камбінат. Менавіта там да самага заслужанага адпачынку працаваў мастаком-керамістам.

Сёння Мікалай Несцярэўскі вядомы як майстар манументальнай керамікі. Ён стварыў шэраг цікавых дэкаратыўных твораў для грамадскіх будынкаў Мінска, Валгаграда, Светлагорска, Салігорска, Гродна, Дзятлава. Працаваў над афармленнем аэрапорта «Мінск-2», станцыі мінскага метро «Плошча Якуба Коласа». Многія яго керамічныя работы занялі пачэснае месца ў Нацыянальным музеі Рэспублікі Беларусь, Раўбіцкім музеі народнага мастацтва, Музеі выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах. Але найбольш работ Мікалая Несцярэўскага знаходзіцца на Дзятлаўшчыне. Фонды Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея налічваюць больш за дзвесце ягоных работ. І амаль усе яны падораны музею.

Мастак-кераміст перадаў музею калекцыю дэкаратыўных скульптур аб'ёмных формаў, серыю керамічных партрэтаў (медальёны, плакеткі) дзяржаўных дзеячаў старажытнай Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага, дзеячаў беларускага Адраджэння.

Літаральна штогод Мікалай Лаўрэнцьевіч перадае Дзятлаўскаму музею сваю кераміку ці карціны. Ды і вельмі часта бывае на Дзятлаўшчыне і на Беласточчыне, дзе жывуць яго блізкія і родныя людзі. Марыць перадаць свае працы і беларусам Беласточчыны, але чакае дапамогі з боку беларускіх міністэрства культуры і міністэрства замежных спраў, беларускіх грамадска-культурных арганізацый Беласточчыны, каб дапамаглі гэту справу ажыццявіць. Бо асабіста займацца гэтым ён не мае сіл, усё ж узрост 85 гадоў даволі вялікі, каб хадзіць па інстанцыях і вырашаць падобныя пытанні.

Падчас выставы ў Дзятлаве прысутныя пазнаёміліся і будуць знаёміцца яшчэ доўга з творамі славутага мастака. Найперш прыцягвалі вока керамічныя і алейныя бюсты і партрэты Міндоўга, Кастуся Каліноўскага, Льва Сапегі, Станіслава і Адама Солтанаў, Аляксандра Палубінскага, заснавальніка Дзятлаўскага музея Міхася Петрыкевіча, паэта Віктара Шымука і іншых вялікіх і цікавых асоб нашай Бацькаўшчыны.

❖Тэкст і фота Сяргея ЧЫГРЫНА

---

Дзяржаўная ўстанова культуры «Воранаўская раённая бібліятэка»

# http://voronovocbs.by

Бібліятэкі заўсёды лічыліся цэнтрамі культуры і месцамі захоўвання ведаў. Сёння гэты чыннік у іх дзейнасці не змяніўся, але працаваць у часы паўсюднай прысутнасці інтэрнэту ім становіцца ўсё складаней. Працаўнікі бібліятэк прызнаюць скарачэнне колькасці наведвальнікаў у параўнанні з „даінтэрнэтавым" часам.

Для таго, каб завабіць як мага больш чытачоў да карыстання з бібліятэчных паслуг, бібліятэкі мусяць па меншай меры мець сайт у інтэрнэце. І яны з большага іх маюць. Праўда, далёка не ўсе бібліятэчныя сайты ў Беларусі афармлены па-беларуску. Адным з беларускамоўных сайтаў з'яўляецца сайт бібліятэк ў мястэчку Воранава, якое знаходзіцца ў Гродзенскай вобласці непадалёк ад мяжы з Літвой. Адрас сайта ў інтэрнэце **http://voronovocbs.by**.

Сваю гісторыю бібліятэка ў Воранаве, якое ў міжваенны перыяд было ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай, апісвае, пачынаючы чамусьці ад верасня 1945 года. Цяжка паверыць, але магчыма сапраўды ў 20-30 гады мінулага стагоддзя ў мястэчку не было ніякага даступнага для паспалітага люду кнігасховішча.

Калі ўважліва ўчытацца ў тэкст, які змешчаны на старонцы „Пра нас", то гісторыя як бібліятэкі, так і цэлага паселішча і яго ваколля падаецца выключна ў савецкіх традыцыях. „1919-1939 гады — тэрыторыя раёна была акупавана войскамі буржуазнай Польшчы. У 1939 годзе тэрыторыя раёна ўвайшла ў склад БССР", — адзначаецца там.

Найбольш падрабязную інфармацыю аб Воранаўскім раёне можна пабачыць у рубрыцы „Краязнаўства", выйсце на якую месціцца з левага боку цэлага выяўлення. Тут падаюцца звесткі як пра яго сучаснасць, так і гісторыю. Маецца нават гімн Воранава. „Магутны леў на гербе і на сцягу,/ Ёсць напамін мінуўшчыны сівой,/ Што трэба мець і моц нам, і адвагу,/ Каб зберагчы свалёй зямлі спакой", — пяецца ў ім.

Адметна, што па нацыянальным складзе насельніцтва раёна не беларускае. Беларусаў там, згодна інфармацыі ў краязнаўчай рубрыцы, усяго толькі 13%. Затое 80,8% — гэта палякі. Таму не дзіўна, што ў раёне 13 каталіцкіх касцёлаў і толькі дзве праваслаўныя царквы.

Што ж тычыцца бібліятэчнай справы ў Воранаве, то яна адлюстравана на сайце даволі добра. Так, на галоўнай старонцы змяшчаецца інфармацыя аб апошніх так ці інакш датычных бібліятэкараў падзеях. Прычым абнаўляецца яна даволі часта і апошнія паведамленні датуюцца сёлетнім жніўнем. Гэта ўказвае на тое, што пра сайт дбаюць, разумеючы, што ён з'яўляецца тварам установы.

Не забываюцца воранаўскія бібліятэкары распавесці пра свае поспехі. У рубрыцы „Нашы дасягненні" распавядаецца пра тыя ўзнагароды, якія атрымалі бібліятэкі раёна, удзельнічаючы ў разнастайных конкурсах і акцыях. Сёлета ім удалося адзначыцца ў намінацыі „За падтрымку і развіццё чытання" нацыянальнага конкурсу „Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры".

Нягледзячы на тое, што сайт воранаўскай бібліятэкі сапраўды цікавы і насычаны інфармацыяй, без недахопаў там не абышлося. Так, старонка „Бібліятэка: учора і сёння" можа прывабіць карыстальніка, які захоча больш даведацца пра развіццё бібліятэчнай справы на Воранаўшчыне, але нічога ў яго не атрымаецца — старонка змяшчае толькі фотаздымкі будынкаў сельскіх бібліятэк Воранаўскага раёна.

❖Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

---

Дата з календара

Аўтар нацыянальнага гімна беларусаў

# 125 гадоў з дня нараджэння Макара Краўцова

Беларускі пісьменнік, паэт, перакладчык, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч Макар Краўцоў нарадзіўся 18 жніўня 1891 г. у вёсцы Баброўня Гродзенскага павета ў заможнай сялянскай сям'і. Сапраўднае яго поўнае імя Макар Мацвеевіч Касцевіч. Псеўданім жа стаў данінаю памяці прадзедам, якія жылі з кравецтва, шыючы найлепшыя ў акрузе кажухі. Макара з самага дзяцінства вельмі вабілі кніжкі. Самым адметным у царкоўна-прыходскай школцы былі выкладчык спеваў і музыкі, які, караючы вучняў, біў іх па вушах смычком ад скрыпкі. Касцевіч такую пачостку зарабляў нячаста, бо авалодаў скрыпкаю вельмі добра. А мо і наадварот — таму і авалодаў, што часта атрымліваў па вушах ад педагога. Макар скончыў царкоўна-прыходскую школу ў вёсцы Галавачы (Гродзенскі раён, непадалёк Скідаля), потым у 1910 г. — Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Нейкі час працаваў у школе. З 1915 г. у час вайны Краўцоў быў у войску, пасля вайсковай вучэльні — на Паўночна-Заходнім фронце. У лёсавызначальныя для краю гады ён як салдацкі дэлегат бярэ ўдзел у Першым Усебеларускім з'ездзе, становіцца сябрам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, уваходзіць у склад Беларускай вайсковай камісіі, што намагаецца стварыць дзеля абароны БНР нацыянальнае войска. Быў дэлегатам Першага Усебеларускага кангрэса ў снежні 1917 г. Настаўнічаў у Менску ў 1917-1918 гг. Выкладаў на курсах беларусазнаўства пры Менскай гарадской думе. У 1918 г. уступіў у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Удзельнічаў у працы Рады БНР у Менску і Гародні.

Краўцоў заяўляе пра сябе як пра здольнага літаратара, якога заахвочвае цёплым словам у друку малады Максім Гарэцкі. У 1919 г. менская газета „Беларусь" пад назовам „Ваяцкі гімн" публікуе Макараў верш „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Кампазітар Уладзімер Тэраўскі піша да яго музыку, і песня неверагодна хутка набывае велізарную папулярнасць і становіцца гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі. Яго спявалі, ідучы ў бой на бальшавікоў, слуцкія паўстанцы, у шэрагах якіх ваяваў і сам Краўцоў. У час гэтага вызвольнага паўстання займаўся справамі друку, быў загадчыкам паўстанцкай друкарні ў Клецку. Пазней працаваў у Радашковіцкай беларускай гімназіі (1922-1923). Жыў у Вільні. Рэдагаваў часопіс „Саха" (1923). З 1927 г. актыўна ўдзельнічаў у працы Беларускага навуковага таварыства. Друкаваўся (з 1916 г.) у перыядычных выданнях „Гоман", „Звон", „Беларускае жыццё", „Беларускія ведамасці", „Беларусь", „Наша думка", „Маланка", „Грамадскі голас", „Беларускае слова", „Сялянская ніва", „Беларуская культура", „Беларускі дзень". Карыстаўся таксама псеўданімам Язэп Сьвятазар. Арганізоўваў у родных мясцінах беларускія канцэрты, спектаклі. Арыштоўваўся ўладамі Польшчы за нібыта пракамуністычную агітацыю.

У 1930-ых гадах адышоў ад літаратурнай творчасці. Не мог знайсці працы. Быў сябрам Галоўнай управы Таварыства беларускай школы ў 1936-1937 гадах. У кастрычніку 1939 г. працаваў у рэдакцыі газеты „Віленская праўда". Неўзабаве арыштаваны бальшавікамі, загінуў у зняволенні ў беластоцкай турме. Найверагодней быў закатаваны на допытах. Дакладны дзень смерці і месца пахавання застаюцца невядомымі. Пакінуў пасля сябе багатую літаратурную спадчыну, але яго галоўным творам назаўсёды застанецца „Ваяцкі гімн".

❖Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Гляджу і ўспамінаю

Непрыкметна сцякае час. Здаецца, нядаўна святкавалі Новы год, а ўжо прыйшоў жнівень. 7 жніўня — Ганна, асенняя панна. А ў народзе кажуць: «Ад святой Ганкі — халодныя вячоркі і ранкі». Калісьці праваслаўныя вернікі масава паломнічалі ў Стары Корнін. Хто фурманкай, хто пешшу. Нават старэнькія бабулькі з Кузавы, памятаю, падаваліся пехатою ў адлеглы на дваццаць шэсць кіламетраў Стары Корнін. Такая была традыцыя. Зараз Ганну адзначаюць у суседняй Вульцы-Тэрахоўскай. А я застаюся ў адзіноце, дамаседам не па сваёй волі і ўспамінаю светлай памяці сваю жонку Ганну і супольна пражытыя будні. Гартаю дамашні альбом з пажаўцелымі фатаграфіямі. Кожны здымак адлюстроўвае паасобны эпізод з жыцця бацькоў, суродзічаў, якія даўно адышлі ў вечны спачын. Успомнім затым мінулыя будні.

Вось першы здымак. З левага боку незамужняя матуля Вольга Селях, бабуля Кісялеўская родам з Кобрына, дваюрадная сястра матулі Тацццяна Саўчук. Канец дваццатых гадоў. Бабуля была каталічкай са шляхецкага роду. Вянчалася ў царкве. Дзеці там жа хрысцілі. Але ў трыццатых гадах пераехала ў Чаромху да сына Міхася і там дажыла старасці. Памерла ў 1937 годзе. Яе астанкі пакояцца на каталіцкім могільніку ў Чаромсе.

Другі здымак. Трыццатыя гады. Бацька Хведар Сідарук (з левага боку) з матуляй і сябрам Дудэлем з сяла Чаромха. Задушэўныя калегі. Разам працавалі на чыгунцы ў даваенны час і ў пасляваенныя гады.

А на трэцім здымку — бацькі ў кампаніі сужонства Васіля і Параскевы Якубічаў з Хлявішчаў і Параскевы Рэпкі з Кузавы. З левага боку стаіць матуля Вольга, сядзяць Васіль Якубіч з Параскевай Рэпкай, ззаду стаяць Параскева Якубіч і бацька Хведар. Здымкі робленыя ў трыццатых гадах мінулага стагоддзя ў Кляшчэлях у атэлье Ежы Костка. Быў ён прафесіянальным фатографам на ўсю ваколіцу. Стары кавалер. Памятаю, што і я ў школьным узросце рабіў у яго здымкі.

З таго часу мінула больш сямідзесяці гадоў, але памяць аб людзях таго часу надалей жывая.

❖**Уладзімір СІДАРУК** (фота з дамашняга архіва)


Фота 1


Фота 2


Фота 3

# 21.08 — 27.08

**(22.03. — 20.04.)** Зараз магчымыя пэўныя цяжкасці, перад якімі не варта адступаць. Тады поспех проста непазбежны. У працы лепш абапірацца на правераныя метады, а нестандартныя падыходы выкарыстоўваць толькі як дадатак. Неабходна праяўляць цярпенне і зацятасць. Добры час для падвядзення пэўных вынікаў і для пачатку адпачынку. Не пазбягай дзелавых сустрэч і нарад, на іх праяві сябе. У выхадныя не сядзі дома.

**(21.04. — 21.05.)** Прыйдзецца табе праявіць цярпенне і дыпламатычнасць у адносінах да людзей, не варта ўрывацца ў іх унутраны свет без запрашэння. Занадта хуткае выкананне тваіх жаданняў павінна насцярожыць, не выключана, што цябе такім чынам проста завабліваюць у пастку. Другая палова тыдня — прыдатны момант для вяселля або разводу. У суботу, калі нешта забудзеш або згубіш, яно прападзе.

**(22.05. — 22.06.)** Не варта будаваць залішне грандыёзных планаў, будзе значна лепш пакуль крыху адпачыць і сабрацца з сіламі. Пазбаўляйся ад непатрэбнага хламу, вызваляй прастору для станоўчых зменнняў у кар'еры і асабістым жыцці. Твае энергія і напор стануць гарантам поспеху ў многіх справах.

**(23.06. — 23.07.)** Прыслухайся да сваёй інтуіцыі, і тады зможаш прымаць такія рашэнні, якія забяспечаць табе поспех і дабрабыт. На працы верагодныя змены да лепшага. Праяві камунікатыўнасць. Цяпер неабходна табе ўвесь час быць у курсе падзей, каб не прапусціць нейкай важнай інфармацыі.

**(24.07. — 23.08.)** Цяпер ты асабліва лятуценны. Мары могуць рэалізавацца. У панядзелак засяродзься на галоўнай справе. Падзеі, якія адбудуцца з табой у сераду або ў пятніцу, пакажуць, што любыя псіхалагічныя комплексы пераадольныя, калі ў цяжкую хвіліну звярнуцца па дапамогу да блізкага чалавека. Вясёлосць і прыемная кампанія ў выхадныя.

**(24.08. — 23.09.)** Твая жыццёвая актыўнасць можа быць абмежаваная аб'ектыўнымі прычынамі. Не плыві супраць цячэння, заставайся часова на другіх ролях, гэтая тактыка прывядзе цябе да найлепшага выніку. Будзь асцярожны, таму што магчыма паступленне наўмысна скажонай інфармацыі, а таксама ўзрасце актыўнасць нядобразычліўцаў і канкурэнтаў.

**(24.09. — 23.10.)** Паспрабуй скласці план першачарговых дзеянняў і арыентуйся па ім. На працы праяві разумную асцярожнасць, не давай падкормкі для плётак зайздросных калег. У сярэдзіне тыдня залішне сябе не перагружай. Давядзі пачатую справу да канца, тады ў выходныя адпачнеш.

**(24.10. — 22.11.)** Паспрабуй быць спакойным і ўраўнаважаным чалавекам, не губляй кантролю над эмоцыямі. Тыдзень будзе дастаткова напружаны з-за павелічэння аб'ёму працы, затое зможаш атрымаць дадатковы прыбытак. Акуратнасць і ўважлівасць — ключавыя паняцці. Добра абдуманыя словы і дзеянні зробяць добрае ўражанне на начальстве і калегах. Твой аўтарытэт умацуецца.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш шмат кантактаваць, але паспрабуй пры гэтым не сварыцца і публічна не высвятляць адносін. Будзеш разрывацца паміж прафесійнымі абавязкамі і сямейнымі справамі. Пажадана нікуды не спазняцца і не скардзіцца на жыццё. Настройся пазітыўна.

**(23.12. — 20.01.)** Добры настрой, асабліва, калі дасі сабе магчымасць адпачыць. Спрыяльны час для творчых заняткаў або для адпачынку на прыродзе. Магчымы пачатак павольнага, але дакладнага прасоўвання па кар'ернай лесвіцы, з'явіцца шанц адправіцца ў займальную паездку. Дыпламатыя і такт дадуць магчымасць паспяхова вырашаць бягучыя праблемы.

**(21.01. — 19.02.)** Разлічвай свае сілы, тады зможаш паспець. На працы спатрэбіцца аб'ектыўнасць для выпраўлення недахопаў і дробных недакладнасцей, бо без гэтага будзе немагчыма ісці наперад. Пакажаш, які ты незаменны спецыяліст. У некаторых сітуацыях поспеху спрыяе наступальная тактыка. У выхадныя чакаюць добрыя падзеі, якія змацуюць упэўненасць ва ўласных сілах.

**(20.02. — 21.03.)** Чакаюць цябе спрыяльныя перамены, не варта баяцца іх. Кантакты і сустрэчы адбяруць шмат часу, але прынясуць прыбытак у будучыні. У сярэдзіне тыдня асаблівую важнасць для цябе набудзе духоўна-маральны аспект. Памятай, што на чужым няшчасці сваё шчасце не пабудуеш. У нядзелю зможаш вырашыць існуючыя ў сям'і супярэчнасці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. эра геалагічнай гісторыі Зямлі з карбонам і кембрам, 2. сталіца Баварыі, 3. водбліск пажару або заходу сонца, 4. дзяржава з Дамаскам, 5. Сакрат, аўтар "Самасея", 6. распалены попел, 7. паслядоўнік Ігнацыя Лаёлы, 8. пехацінец у султанскай Турцыі, 9. буйны горад на паўднёвым захадзе Калумбіі, 10. змацаваны цэмент, 11. захворванне сядалішчнага нерва, 12. пасля прадвесня, 13. невялікая прэснаводная касцістая рыба з калючымі плаўнікамі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | 3 | | | | | | |
| | | | | | | | | 4 | 5 | | | 6 | |
| | | | | | | | 7 | | | | | | |
| | | | | | 8 | 9 | | | | 10 | 11 | | |
| | | | | 12 | | | | 13 | | | | | |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

Даль, жыжа, рыжык, Ур, хань, цуд, яць.

Рашэнне: **Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (52)



Калі б хто з даваенных людзей вярнуўся ў Камень-Кашырскі раён пашукаць слядоў сваіх продкаў, разгубіўся б на месцы. Усё з-за змененых назоваў мясцін, якія ў нічым не напамінаюць гістарычных адпаведнікаў.

Вось такое сяло Грудкі!

— Калісь гаварылі, што гэта Ольбле, — кажа Пятро Цюрык. — А чаму яно зараз Грудкі? Мабыць таму, што няма ўжо паноў і назоў зрабілі ўкраінскі, каб усім было зразумела.

— Палякі не ведаюць што значыць слова «Ольбле», — кажу, — яны падумаюць што гэта па-вашаму. Асабліва, калі пабачаць вашы цэрквы з залатымі купаламі.

На старых картах тры такія назовы, сёлы *Ольбле Руске* і *Ольбле Ляцке*. Яны распалажаны насупраць сябе, як блізняты, толькі іх раздзяляе вялікае возера, якое на гістарычных картах таксама называецца *Ольбле* (або *Ільбле)*. Сёлы былі вядомы ўжо ў XVI стагоддзі і яны, як згаданае Нуйно, прыналежалі князям Сангушкам. Ужо тады возера было падзелена на дзве роўныя часткі і служыла дзвюм Ольблям. Падзел захаваўся па сённяшні дзень, а ракі і карасі, якімі мяне частавалі ў сучасных Грудках, былі злоўленыя па «рускім» баку бадзёрай спявачкай-рыбалоўкай.

* * *

Незабыўны візіт у Грудкі лічу працягам добрай выпадковасці, якая пачалася з візіту ў рэдакцыю «Полісся». Там рэкамендавалі мне з'ездзіць на «Лэбскія забавы» і на свае вочы пабачыць як гуляе народ.



Помнік загінулым у Афганістане



Спадар Пятро Цюрык

— Гэта нешта накшталт Івана Купалы! — паяснілі ў рэдакцыі.

У якасці музычных зорак мелі выступіць лепшыя народныя спявачкі і калектывы з раёна.

Палескае Купалле назначылі якраз на Пятра і Паўла, пасля посту, каб не абразіць свяшчэнніка. Хоць у Грудках пяць веравызнанняў (праваслаўныя РПЦ Маскоўскага і РПЦ Кіеўскага патрыярхатаў, баптысты, пяцідзясятнікі і іегавісты), галоўным духоўным цэнтрам тут лічаць Свята-Міхайлаўскую царкву, прыналежную РПЦ МП. Як не цікава, з мясцінай звязаны род святароў Харкевічаў, якія служылі на працягу цэлага XIX стагоддзя. Айцец Іван Харкевіч праславіўся як інтэлектуал і асветнік, аўтар «Царкоўнага летапісу с. Ольбля Рускага», які выйшаў друкам у 1895 годзе. У той час пры царкве існавала школа, у якой вучылася дванццаць дзяцей.

Сёння парафію, у якой за тысячу прыхаджан, узначальвае свяшчэннік Андрэй Літвін.

А тыя «Лэбскія забавы» гэта працяг купальскіх гульняў. Пры Савецкім Саюзе ладзілі іх у пост — як скажуць мясцовыя старажылкі — усё на тое, каб адвярнуць маладых ад *Ліца Божыя*.

— У вас не святкавалі Купалля? — пытаю на месцы ў надта жыццярадасных старэч-паляшучак. У адказ пачую такія словы:

— У нас ніхто не чуў пра Купалле! Іншая рэч, на Пятра. Бывала, зажануць нас на поле, да жніва. Дык мы больш прыкідваліся, чым працавалі. Чакалі ажно брыгадзір аддаліцца. Тады даставалі прынесеную з хаты яду, частаваліся, спявалі і плакалі.

— Плакалі?

— Пасля вайны столькі ж народу прапала. Пасядаем ды ўспамінаем. Асабліва тых, хто добра спяваў, хто добра танчыў *вальчыка, кракавяка*.

— А спявалі?

— О- го-го! Як пачнем спяваць з вечара, то да рання спяваем, ды так, каб ні адна песня не паўтарылася...

У Грудкі на «Лэбскія забавы» прыехала я разам з музычным калектывам з Камянецкага дома культуры. Шафёр Пятро Цюрык, надта ветлівы чалавек, быў родам якраз з Грудкоў. Большасць жыцця пражыў у Камені, але ведаў усё, што адбывалася ў роднай вёсцы. Бо адлегласць, як рукой падаць — пяць кіламетраў. Сёння Грудкі — амаль прыгарад.

— Мы з жонкай збіраемся вярнуцца жыць у сяло, — кажа спадар Цюрык. — Там усе свае. Гарадскую кватэру пакінем дзецям.

— А якія ў Грудках прозвішчы? — пытаю.

— Ну, вось маё надта распаўсюджанае. Калі хто пачуе што я — Цюрык, ведае што з Грудкоў. Іншыя прозвішчы гэта Луцык, Шумік, Сацык.

У Грудках больш за 1800 жыхароў, вялікі адсотак якіх складаюць маладыя сем'і і дзеці. У сяле працуюць школа і дзіцячы садок, у якіх больш за чатырыста навучэнцаў. Тут, як у Нуйно, галоўнай крыніцай прыбытку з'яўляюцца сезонныя працы ў Расіі.

На пачатку вёскі мы пабачылі гурбу гравію.

— Нам каб дарогу дапамаглі зрабіць, — кажа спадар Пятро, — а ўсё апошняе мы самі зробім, адрамантуем.

— Калі апошнім разам у вас рамантавалі дарогу?

— Яе ніколі не рамантавалі. Як збудавалі пры Саюзе, так і не дакраналіся...

* * *

Спадар Пятро Цюрык быў першай асобай, якая асвятліла справу новых назоваў. Ён сам дакладна не ведаў, калі прыйшлі змены:

— Відаць тады, як ужо настала Украіна, — кажа.

Ён таксама патлумачыў, што іхняе возера, якое зараз завуць Грудкіўское, пры Польшчы называлі Лэбскім. Адтуль пайшлі і «Лэбскія забавы». Гэта быў паклон у бок мясцовай гісторыі.

Змена назоваў, на самой справе, скрывае трагічныя падзеі, якія адбываліся на ўкраінскім Палессі пасля 1945 года. Камень-Кашырскі раён, як мала які іншы, быў пакараны за ўдзел у антыкамуністычным падполлі. Адсюль у 1945-1946 гадах было вывезеных у Сібір і Казахстан дзесяць тысяч насельніцтва, то-бок, кожны шосты жыхар. Многія мясціны, адкуль выводзіліся байцы УПА і дзеячы ОУН, за кару былі перайменаваны якраз у 1946 годзе.

Таксама ў 1946 годзе Ольбле Рускае стала Грудкамі, а Ольбле Ляцкае — Осівцямі.

На месцы ніхто не ўмеў (або не хацеў) патлумачыць прычын, ад якіх пайшлі змены. Праўда, пакаленне савецкіх людзей, як і сучасная моладзь, цалкам пазбаўлены аб'ектыўнай гістарычнай свядомасці. Згадкі пра Валынскую разню, ці генацыд яўрэяў, застаюцца замоўчванымі тэмамі. У адных яны выклікаюць шок і слёзы, у іншых — недавер, варожасць. Адначасова прыезджых з Польшчы, што я сама на сабе спазнала, віталі з незвычайнай адкрытасцю і сардэчнасцю. Усіх чакаў шчодры пачастунак і прыгожыя словы пра дружбу і славянскую душу...

Таму, згодна з мэтай падарожжа, я засяродзілася ў Грудках-Ольблі на ягадных песнях. Наступная песня гучыць прыблізна так, як на тры-чатыры галасы спяваюць палескія вяснянкі.

Ой ты, дывчыно, ты, чырвона калыно,
Ой чом твое біэлэ лычко змарніл(о).
Чы од вітру, чы од ясного сонца,
Чы з нелюба, што стоіш край віконц(а).
Чы мніэ, маты, цвіт калыны ломаты,
Чы йты замуж, чы дівкою гулять.
Пуйды заміж, трэба тяжко робыты,
А дывкою буду людэ смышыт.
Пуйды заміж, трэба рано вставаты,
А дівкою трэба косу чэсать.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960